

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ШТОТЫДНЁВІК

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**Пятніца, 2 лютага 1990 г. № 5 (3519) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.**


# БЕЛАРУСКАЯ МОВА—ДЗЯРЖАЎНАЯ!

**XIV СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ ПРЫНЯЛА Ў МІНУЛУЮ ПЯТНІЦУ, 26 СТУДЗЕНЯ, ЗАКОН АБ МОВАХ У БЕЛАРУСКАЙ ССР. З ПРЫНЯЦЦЕМ ГЭТАГА ГІСТАРЫЧНАГА АКТА ПАЧЫНАЕЦЦА НОВЫ ЭТАП НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ.**

**На сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі выступіла з дакладам старшыня камісіі па падрыхтоўцы законапраекта аб мовах у Беларускай ССР дэпутат Н. М. Мазай. Садаклад зрабіў старшыня пастаяннай камісіі па народнай адукацыі і культуры Вярхоўнага Савета дэпутат А. Ц. Караткевіч.**

**У абмеркаванні вынесенага на парадак дня сесіі пытання актыўны ўдзел прынялі дзеячы культуры і навукі — дэпутаты І. Г. Чыгрынаў, Л. І. Кісялёўскі, Н. С. Гілевіч, Р. І. Янкоўскі, І. Я. Навуменка, Г. М. Бураўкін, І. М. Лучанок, міністры Я. К. Вайтовіч і М. І. Дзямчук, сакратар Мінскага гаркома КПБ П. К. Краўчанка і іншыя.**

**Інфармацыя аб сесіі і выступленні дэпутатаў публікаваліся ў рэспубліканскім друку са скарачэннямі. Па гэтай прычыне Г. Бураўкін і Н. Гілевіч выказалі пажаданне, каб у «ЛіМе» былі надрукаваны поўныя тэксты іх прамоў.**






## Генадзь БУРАЎКІН:

### «Закон, падказаны нам перабудовай»

Паважаныя таварышы дэпутаты!

Не ведаю, як вы, а я ішоў на гэтую нашу сесію з вельмі няпростым прадчуваннем, у якім складана перапляліся і свядомая радасць ад таго, што выпала рэдкая магчымасць прыняць удзел у вырашэнні аднаго з самых далікатных і глыбінных пытанняў жыцця роднага народа, яго культуры, яго душы, і нейкая неўсвядомленая трывога, навеяная некаторымі публікацыямі апошняга часу, і пацверджаная асобнымі выступленнямі ў гэтай трыбуны, ад таго, што старыя ідэалагічныя звычкі і бязмежныя бюракратычныя амбіцыі могуць легчы непадымальным валуном на шляху да прыняцця дэмакратычнага закона. Ці хопіць усім нам розуму, дасведчанасці, прынцыповасці і адказнасці, каб не паддацца спакусе стаць на коўзкі шлях кампрамісаў, імгненнай эканамічнай мэтазгоднасці, раўнадушнай заспакоенасці?..

Навокал бушуюць такія эмоцыі, што можна і разгубіцца, і махнуць на ўсё рукой, і палічыць вынесеную на абмеркаванне праблему другараднай і неістотнай. Тым болей, што там-сям камандна чуюцца добразнаёмыя басы з патрабаваннем не рабіць насілля над натуральным ходам жыцця, не прымаць дзяржаўных захадаў у адносінах да такой тонкай (бачыце, нарэшце зразумелі, што тонкай) справы, як ужыванне мовы ў паўсядзённай практыцы, ды яшчэ ў Беларусі, дзе, па іх аптымістычным заключэнні, сам народ ужо выракся свайго несамавітага слова. Гаворыцца гэта так упэўнена, так безапеляцыйна, з такім напорам і пераканаsuccessнем, што не дзіўна даверлівай душы і засумнявацца, і азірнуцца на даўнія аўтарытэты, і сціпла прамаўчаць, а то і ўстрымацца ад спрэчкі на ўсякі выпадак...

**А я зноў і зноў успамінаю мінулагодні жнівень, які правёў на сіняй нашай, бяскрайняй, як хочацца верыць, Нарачы. Кожны вечар на беразе з'яўлялася гаманкая купка малых хлапчукоў, і іхнімі звонкімі галасамі запаўнялася насцярожаная цішыня. Як натуральна і хораша гучала ў іх жывое, пявучае беларускае слова! Як лёгка яно вымаўлялася, як хутка знаходзілася і як было дарэчы!.. А потым прыбягалі старэйшыя іх браты, школьнікі, — і беларуская мова замянялася рускай, а часцей за ўсё не дужа пісьменнай «трасянкай», дзе аднолькава знявечанымі адчувалі сябе і словы вялікага Пушкіна, і мова вялікага Купалы... І яшчэ адно назіранне: прыбіральшчыцы ў доме адпачынку, памяркоўныя вясковыя цёткі, як звычайна, гаварылі між сабою на вельмі добрай беларускай мове, а вось ужо ўрачы і так званая кіраўнічая абслуга падкрэслена размаўлялі па-руску... Як ні дзіўна, як ні жахліва гэта, рубяжом, калі можна так сказаць, для іх стала адукаванасць. Пакуль дзіцё не пайшло ў школу, яно беларускамоўнае, пакуль чалавек не прайшоў вышэйшую навучальную ўстанову, ён яшчэ карыстаецца сваёй роднай гаворкай. Адукацыя наша практычна адвучвае людзей ад матчынай мовы, ад мовы продкаў, мовы зямлі, на якой суджана нарадзіцца і жыць. А адукацыя ў нашай краіне, як усім вядома, — справа дзяржаўная. Яе арганізуе, ёю кіруе дзяржава. Дык хто ж тады доўгімі дзесяцігоддзямі гасіў у нас светлячкі моўных россыпаў — народ, на які так часта спасылаюцца ссівелыя тэарэтыкі адмірання нацый, ці тая дзяржаўная палітыка, якую заснаваў, насуперак ленінскім запаветам, вусаты бацька ўсіх народаў і рас і якую старанна прадоўжылі хрушчоўскія і брэжнеўскія злівальнікі моў і сціральнікі спрадвечных адрозненняў?..**

Думаю, што надышоў час (дарэчы, наколькі шчаслівы, настолькі і нялёгкі), не чапляючыся болей за выцвілыя лозунгі і пустыя абяцанні, папрасіць у беларускага народа прабачэння за тую непавагу і

(Працяг на стар. 4).

## Ніл ГІЛЕВІЧ:

### «Пачуемся гаспадарамі сваёй зямлі»

Закон аб мовах у БССР, які, я веру, мы сёння прымем, *абвесціць беларускую мову ў Беларусі дзяржаўнай.* Што гэта значыць? Перш за ўсё гэта значыць тое, што дзяржава бярэ на сябе адказнасць за лёс мовы народа, за яе становішча ў грамадстве, за яе здароўе і жыццё. Народ сваёй дзяржаве—у асобе яе кіраўнічых органаў — даверыў усё: даверыў зямлю, прыроду, лясы і рэкі, сваё здароўе, свае духоўныя скарбы-багацці, і лёс сваёй роднай мовы таксама. Даверыў — і адначасова абавязаў яе клапаціцца пра ўсё гэта. І як жа дзяржава цягам доўгіх дзесяцігоддзяў клапацілася? У якім, напрыклад, становішчы наша прырода, наша родная зямля, засыпаная смяротнымі нуклідамі чарнобыльскай катастрофы? А, мабыць, у такім жа, як і наша родная мова. І гэта зразумела. Калі дзяржава не магла разумна, мудра, па-гаспадарску распарадзіцца і адным, і другім, і трэцім, то ці магла яна іначай, разумней, мудрэй распарадзіцца чацвёртым і пятым?

Ні адну жыццёвую праблему ў сваёй рэспубліцы мы не зможам вырашыць паспяхова, калі не пачуемся сапраўднымі гаспадарамі гэтай зямлі, у поўнай меры адказнымі за яе лёс, за яе будучыню. Становішча беларускай мовы — мовы вялікага славянскага народа — сёння такое, што горшае і ўявіць цяжка. Але калі мы паклапоцімся толькі пра мову і культуру, а ў іншых сферах — у палітычнай, у эканамічнай, у сацыяльнай — перамен не адбудзецца, то раней ці пазней зноў пачнецца заняпад і мовы і культуры. Каб гэтага не здарылася, Беларускай ССР як суверэннай дзяржаве патрэбны прававыя гарантыі яе палітычнай і эканамічнай самастойнасці, а ўсім нам, жыхарам рэспублікі, патрэбна дзяржаўная самасвядомасць, дзяржаўнае самапачуванне. Хто-небудзь запытае: а хіба яго ў нас няма? Адкажу: у адных — ёсць, а ў другіх, на вялікі жаль, — няма. У тым ліку у многіх мужоў дзяржаўных. А якое ж у іх, спытаеце, самапачуванне ёсць? А дакладна такое, як у дзяржаўна-адказных таварышаў з Разанскае або Кастрамскае вобласці. Таму мы і прывыклі, што цэнтр і яго ведамствы адпаведным чынам з намі абыходзяцца. Час, аднак, патрабуе, каб гэтыя абласніцкія настроі, погляды і падыходы змяніліся на дзяржаўныя, прасякнуліся нацыянальнай самасвядомасцю, каб у іх аснову лёг клопат пра будучыню беларускай нацыі. Усе мы ўжо ведаем, што прынцыпы ўзаемаадносін паміж рэспублікамі нашай федэрацыі, паміж рэспублікамі і цэнтрам будуць у самы блізкі час істотна мяняцца ў бок значнага пашырэння правоў рэспублік. У кантэксце размовы хацеў бы толькі дадаць, што наданне беларускай мове статуса дзяржаўнай якраз і дапаможа ўсяму нашаму народу развіць нацыянальную самасвядомасць і набыць самапачуванне народа дзяржаўнага.

**Дарэчы, калі б наша нацыянальная самасвядомасць была на належным узроўні, мы не заяўлялі б так непрадумана з гэтай высокай трыбуны, што нібыта ў нас толькі ў адной Гродзенскай вобласці жыве ажно трыста тысяч палякаў. Як быццам мы не ведаем, калі і ў якіх умовах тысячы і тысячы беларусаў-католікаў былі запісаны палякамі. Веравызнанне і нацыянальнасць — рэчы розныя, зразумеем жа гэта нарэшце!..**

Як чалавек, які ўсё сваё свядомае жыццё ў меру сіл служыў роднаму слову, і як член Камісіі па выпрацоўцы праекта Закона аб мовах, я ўважліва знаёміўся са шматлікімі матэрыяламі яго абмеркавання і хачу падзяліцца з вамі некаторымі думкамі.

Агулам кажучы і шчыра кажучы — закон наш, канешне ж, не зусім справядлівы ў дачыненні да беларускай мовы: мова наша ў яе сённяшнім стано-

(Працяг на стар. 4).

**Сустрэцца з гэтым чалавекам на старонках «ЛіМа» жадаюць, мяркуючы па рэдакцыйнай пошце, многія нашы чытачы. І гэта зусім не дзіўна. Доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, намеснік старшыні Сойма БНФ Юрый Віктаравіч Хадыка — адзін з тых, хто сёння знаходзіцца ў цэнтры падзей грамадска-палітычнага жыцця рэспублікі. Дзякуючы сваім поглядам і чалавечым якасцям, ён карыстаецца значнай папулярнасцю. Адпаведна — мае як прыхільнікаў, так і апанентаў, што таксама зусім натуральна.**

**«Грамадская думка атаясамлівае імя Юрыя Хадыкі з другім дыханнем Фронту. Менавіта з яго дзейнасцю многія звязваюць найбольш «бяскроўны» шлях да вольнай Беларусі. Гэты чалавек уражвае неардынарнасцю мыслення, вялікай адказнасцю за лёс нацыі. У сваіх поглядах ён зыходзіць з прыярытэту агульначалавечых каштоўнасцей. Нават апаненты прызнаюць яго за сапраўднага палітычнага лідэра», — чытаю ў «Навінах» БНФ.**

**Час такі, шмат даводзіцца чытаць...**

**«...анекдотические заявления одного из лидеров БНФ Ю. Ходыки... доктор наук Ходыко носится с идеей открытия воскресных религиозных школ и преподавания закона божьего в общеобразовательных заведениях. Это, очевидно, взамен законов юных пионеров и октябрят», — піша ў «Политическом собеседнике» сакратар парткома Мінскага гадзіннікавага завода В. Чыкін.**

**Вялікі рэзананс, памятаецца, набыў леташні інцыдэнт, калі прафесар Хадыка быў пакараны за арганізацыю акцыі «Чарнобыльскі шлях». Як бы ні рэзала нам вуха назва аднаго з французскіх дэпартаментаў, мяркую, наўрад ці хто шчыра лічыў і лічыць, што рашэнне народнага суда Маскоўскага раёна надало нам гонару перад астатнім светам. Інтэрв'юіруючы Юрыя Віктаравіча неўзабаве пасля восеньскіх падзей у Мінску, карэспандэнт «Советской Эстонии» не без іроніі цікавіўся, «ці можа чалавек, асуджаны народным судом, быць вылучаны ў народныя дэпутаты».**

**Можа. Сплаціўшы, згодна з прысудам, на працягу двух месяцаў па 20 працэнтаў свайго доктарскага заробку, сёння Юрый Хадыка вылучаны кандыдатам у народныя дэпутаты БССР і ўдзельнічае ў перадвыбарчай барацьбе. Жадаю яму, як і ўсім, каго ў бліжэйшы час чакаюць няпростыя выпрабаванні, поспеху. А чытачам «ЛіМа» — прапаную вось гэтую гутарку.**

# Юрый ХАДЫКА:

# «Ідзём на выбары з ідэямі дэмакратыі, свабоды, суверэнітэту»

**Гутарку вядзе Андрэй ГАНЧАРОЎ**



тацтва, які вянчаў працу многіх энтузіястаў.

**— А вы, такім чынам, набылі яшчэ адну адукацыю, мастацтвазнаўчую?**

— Так. І, дарэчы, не адзін я. Гэтае захапленне вызначыла лёс многіх з нас. Напрыклад, Аляксандр Адамавіч Ярашэвіч, які працуе ў музеі з самага пачатку, — таксама фізік.

**— Разумею, Юрый Віктаравіч, што пытанні пра ваша хобі вызначаюцца арыгінальнасцю. Адказваць на іх вам, напэўна, даводзілася неаднойчы... Але, пагадзіцеся, заўсёды цікава зразумець, як чалавек прыходзіць да ўсведамлення нейкіх важных у гэтым жыцці рэчаў. Вось вы некалі ўжо займаліся актыўнай грамадскай дзейнасцю. І, здаецца, пры жаданні маглі б зрабіць неблагую апаратную кар'еру. Справа, вядома, не ў тым, што вы яе не рабілі (у вас і без таго досыць высокі сацыяльны цэнз — доктар, прафесар, загадчык лабараторыі). Але ж тыя з вашых равеснікаў, якія паслядоўна крочылі па прыступках «дзеючых структур» — калі не ўсе, дык многія, — сёння досыць істотна розняцца з вамі як у стаўленні да нацыянальна-культурнага адраджэння, так і ў разуменні шляхоў і тэмпаў дэмакратызацыі нашага грамадства. Што, у такім разе, паўплывала на ваш выбар?**

— На фарміраванне маёй пазіцыі паўплывала, безумоўна, хрушчоўская адліга. Тое, што пасля яе пачыналася, няўмольна насоўвалася зусім іншая эпоха, мы (маю на ўвазе сваіх сяброў і аднадумцаў) не проста адчувалі, а — разумелі, усведамлялі. І таму ў 1968 годзе я катэгарычна адмовіўся ад усялякага працягу грамадскай дзейнасці, хоць мне і прапаноўвалі стаць вызваленым сакратаром акадэмічнага камітэта камсамола. Гэтым годам, як вядома, пазначана агрэсія супраць Чэхаславакіі...

Разам з тым, застаўся моцны зарад энергіі. Незапатрабаваная грамадствам, яна была скіравана намі на заняткі старасветчынай. На тое, што нам падабалася, што, як нам здавалася, магло б служыць захаванню нацыянальнай культуры, а калі-небудзь і яе адраджэнню.

**— Напэўна, асабіста вам было лягчэй? У вас была фізіка...**

— Так.

**— А гуманітарыям, якія амаль усе мусілі быць «байцамі ідэалагічнага фронту»?**

— Ім было надзвычай цяжка. І чым больш сумленны і таленавіты быў чалавек, тым цяжэй яму даводзілася ў жорсткіх умовах, прапанаваных сістэмай. Напрыклад, Зянон Пазняк, якога я ведаю з 1970 года і памятаю ўсе перыпетыі хоць бы таго адчайнага змагання за Няміγу, якую ён вёў разам з Лявонам Баразной... Так, ім было цяжэй!

**— Прымаючы ўдзел у лімаўскім «круглым стале» на тэму «Перабудова і правы чалавека», вы, памятаю, кароткай рэплікай аспрэчылі катэгарычнае выказванне аднаго з прысутных наконт рабскай псіхалогіі, якая нібыта працяла ўсё і ўсіх у нашым грамадстве. Не маглі б вы зараз больш падрабязна развіць тую сваю думку?**

— Ведаеце, нішто не ўзнікае на роўным месцы. Гэтаксама мяне заўсёды крыўдзіць распаўсюджанае выказванне аб тым, што, маўляў, партыя пачала ў 85-м перабудову, і ўсе мы павінны быць ёй удзячныя. Нельга забываць, што ва ўсе часы, на шчасце, знаходзіліся асобы, якія ўласным прыкладам дэманстравалі непрыняцце халуйскай псіхалогіі, рабскага паслушэнства.

Былі такія людзі і ў Беларусі. Не магло не быць, нягледзячы на сапраўдны ідэалагічны тэрор застойных часоў, скіраваны на падаўленне ўсялякай незалежнай думкі.

Для мяне адным з лідэраў беларускага іншадумства з'яўляецца Васіль Быкаў. Сваёй творчасцю, стылем паводзін ён выказваў неканформнасць, што, зразумела, вымагала ахвяр.

Ля вытокаў сённяшняга нашага адраджэнцкага, перабудовачнага руху стаяў таксама Уладзімір Караткевіч. Гэты чалавек свядома і адкрыта спрачаўся з сістэмай.

Памятаю, у 73-м наша экспедыцыя крыху адхілілася ад маршрута, каб заехаць у Зэльву да Ларысы Геніюш. Можна сказаць, што гэта было акцыяй, бо падобныя візіты па тым часе, мякка кажучы, не ўхваляліся. Але для нас Л. Геніюш шмат у чым увасабляла самастойнасць беларускай культуры, яе самакаштоўнасць.

Дарэчы будзе сказаць яшчэ раз пра наш тагачасны музейны рух. Для ўдзелу ў ім існавалі вельмі строгія патрабаванні. Мы карысталіся паслугамі далёка не ўсіх жадаючых. Іх заўсёды было шмат, улічваючы мастацкія і гістарычныя скарбы, з якімі мы мелі справу пад час экспедыцый. Па-першае, нам былі патрэбны людзі дасведчаныя, з адпаведнай падрыхтоўкай. Па-другое, — бездакорныя ва ўсіх адносінах, бо нават думкі ні ў каго не павінна было ўзнікаць, каб штосьці ўзяць, прыдбаць сабе — для ўласнай калекцыі ці на продаж... Шмат каму адмаўлялі, паўтару, справа была пастаўлена надзвычай строга. І ўсё ж, калі адчынялі наш музей і запрасілі ўсіх, хто прымаў удзел у яго стварэнні, набралася звыш 120 чалавек! Ці ж гэта не рух?!

**— Ваша новае ўваходжанне ў грамадска-палітычную дзейнасць умоўна можна датаваць восенню 1988 года. У сітуацыі, якая прымусіла многіх зрабіць выбар, вы ўзялі бок тых, каго наша няўклюдная афіцыйная прапаганда ахрысціла «пенай», «экстрэмістамі»... Сёння, праз два гады, у праграмных заявах многіх кандыдатаў у народныя дэпутаты БССР, разлічаных, безумоўна, на заваяванне даверу выбаршчыкаў, гучаць прапановы аб рэгістрацыі БНФ «Адраджэнне». А, напрыклад, на нядаўнім пленуме ЦК КПБ былы першы сакратар Мінскага гаркома партыі У. Галко сказаў, што ў нас няма экстрэмістаў, а ёсць людзі больш ці менш радыкальных поглядаў. Як вы, Юрый Віктаравіч, ацэньваеце змены ў грамадскім жыцці, ход перабудовачных працэсаў у рэспубліцы?**

— Лічу, што працэсы гэтыя ідуць вельмі запаволена. Разам з тым, нельга не заўважаць нашых агульных набыткаў, заваёў на шляху дэмакратызацыі. Сёння, напрыклад, я не магу сабе ўявіць, каб улады маглі б хлусіць так адкрыта, як пасля памятных падзей 30 кастрычніка двухгадовай даўнасці. Адбыліся кадравыя змены ў партапараце, з якога пайшлі некаторыя найбольш адыёзныя асобы. Удалося прыцягнуць значную ўвагу грамадскасці рэспублікі і краіны да праблем, звязаных з ліквідацыяй наступстваў Чарнобыля. Перамогай дэмакратычных сіл трэба лічыць і прыняцце рэспубліканскіх законаў — аб выбарах і мовах, усведамляючы, безумоўна, іх палавіністасць, недасканаласць.

Толькі чалавек, які нічога не хоча чуць і бачыць, можа адмаўляць актыўную ролю Беларускага народнага фронту ва ўсіх гэтых працэсах. Лічу, што мы паслядоўна ажыццяўляем выпрацаваную з улікам рэалій нашага жыцця мэту — абудзіць у людзях грамадзянскую актыўнасць. У гэтым я пераконваюся, бываючы апошнім часам па справах БНФ у розных гарадах рэспублікі — у Гродне, Брэсце, Баранавічах, Мазыры...

**— Наша гутарка будзе змешчана пад рубрыкай «Выбарчы клуб «ЛіМа», якая задумвалася рэдакцыяй дзеля таго, каб нашы чытачы і аўтары выказвалі свае думкі і меркаванні аб шляхах усталявання сапраўднага народаўладдзя. З чым уступаеце ў барацьбу за дэпутацкі мандат вы, Юрый Віктаравіч? Па маіх звестках, у вас — дванаццаць канкурэнтаў...**

— Я буду выступаць як прадстаўнік Беларускага народнага фронту за перабудову «Адраджэнне» і, адпаведна, кіравацца платформай руху.

**— Як яна выпрацоўвалася?**

— Была створана праграмная камісія. Яна падрыхтавала першы варыянт платформы, які Соймам быў раскрытыкаваны і адхілены.

**— Калі не сакрэт, чаму?**

— Гэта быў сыры дакумент, які не ахопліваў усе бакі жыцця. У дадатак, у ім яшчэ завельмі адчуваўся рамантычны подых колішніх «баёў за дэмакратыю»... Стварылі яшчэ адну рабочую групу. Вынікам яе дзейнасці з'явілася платформа БНФ да выбараў пад дэвізам «Галасую за Беларусь!».

**— Вы не маглі б пазнаёміць чытачоў «ЛіМа» з яе асноўнымі палажэннямі?**

— На добры лад, рэспубліканскаму друку сёння ўжо можна было б дазволіць надрукаваць платформу цалкам. Гэта, паверце, не заняло б шмат месца на газетных старонках і, дарэчы, з'явілася б рэальным укладам у справу кансалідацыі, да якой заклікаюць літаральна ўсе аналагічныя дакументы, вядома, апублікаваныя...

Інакш надараецца, напрыклад, такое. Нядаўна асобнай брашурай без ведама праўлення Сойму з'явіўся «пераклад» выбарчай платформы БНФ на рускую мову. Уважлівае чытанне гэтага «выдання» паказала, што тэкст яе шмат дзе неадпаведны платформе, а часам і ў корані скажае сэнс нашых палажэнняў. Звыш пяцісот экземпляраў фальшыўкі ўжо разышлося, пакуль мы выявілі падробку і заняліся высвятленнем гэтага інцыдэнту.

Выбарчая платформа БНФ «Адраджэнне» грунтуецца на прынцыпах: зямля і заводы — тым, хто на іх працуе, улада Саветам — тым, хто адстойвае інтарэсы народа, аддае яму свае веды і працу.

Ніводная з праблем сённяшняга дня не можа быць станоўча вырашана, пакуль народ не стане поўным гаспадаром над сродкамі вытворчасці, над сваёй працай і яе плёнам, пакуль не будзе сам кіравацца сваёй воляй, розумам і сумленнем. БНФ адстойвае ідэі незалежнасці, рэальнага суверэнітэту Беларусі, бачыць у гэтым найважнейшую палітычную мэту, што стаіць перад грамадствам. Важнейшай задачай БНФ з'яўляецца падрыхтоўка ўмоў да свабоднага выбару народам сваёй самастойнай палітычнай і сацыяльнай перспектывы.

Дзеля гэтага трэба юрыдычна сцвердзіць вяршэнства законаў Беларусі на яе тэрыторыі над саюзнымі законамі і адпаведнасць іх падпісаным рэспублікай міжнародным пактам.

Неабходна юрыдычна замацаваць уласнасць беларускага народа на сваю зямлю і на ўсе прыродныя рэсурсы рэспублікі. Выступаючы за поўную гаспадарча-эканамічную самастойнасць Беларусі, мы лічым неабходным прыняць такія законы пра зямлю і ўласнасць, якія б замацоўвалі існаванне і раўнапраўнасць розных формаў уласнасці ва ўсіх сферах эканомікі.

БНФ выступае за скасаванне сістэмы партыйна-бюракратычнай наменклатуры, патрабуе рассакрэціць структуры бюджэту ўсіх грамадска-палітычных арганізацый, у тым ліку і КПСС, расшыфраваць крыніцы ўтварэння іхніх даходаў і выдаткаў.

У сацыяльнай сферы, дзе становішча не паляпшаецца, нягледзячы на рупную працу нашых людзей, неабходна забяспечыць права маці мець трохгадовы аплачаны адпачынак для догляду дзіцяці, стварыць сістэму прафілактыкі і рэабілітацыі насельніцтва ад уздзеяння радыяцыі, забяспечыць мінімальны пражыццёвы ўзровень малааплачваемым катэгорыям насельніцтва, пенсіянерам, інвалідам і інш., стварыць дзяржаўную сістэму перападрыхтоўкі спецыялістаў, што вызваляцца ў выніку пераўтварэння структуры і характару гаспадарання.

Агульнанацыянальнай задачай прызнаецца выратаванне насельніцтва рэспублікі ад радыяцыі. Таму БНФ выступае за неадкладнае адсяленне жыхароў забруджаных раёнаў і прыняцце закона пра сацыяльныя правы людзей, пацярпелых ад чарнобыльскай катастрофы, БНФ патрабуе перагляду ўсіх прынятых пастаноў і самога падыходу да пераадолення вынікаў аварыі на ЧАЭС; патрабуе ад уладаў СССР безумоўнай і тэрміновай кампенсацыі Беларусі, а таксама яе грамадзянам, стратаў, звязаных з пераадоленнем вынікаў чарнобыльскай катастрофы; лічыць, што ўрад БССР павінен звярнуцца да ўрадаў краін усяго свету з просьбай аб дапамозе ў выратаванні ад уздзеяння радыяцыі.

Галоўнай умовай нармалізацыі экалагічнай абстаноўкі ў рэспубліцы БНФ лічыць пераарыентацыю народнай гаспадаркі з энерга- і рэсурсаёмістых на экалагічна чыстыя і навукаёмістыя вытворчасці. Неабходна ўвесці аплату за карыстанне прыроднымі рэсурсамі. Экалагічна небяспечныя народнагаспадарчыя і вайсковыя аб'екты забяспечыць сучаснымі ачышчальнымі сістэмамі, перапрафіліраваць альбо ліквідаваць.

У сваёй выбарчай платформе БНФ выступае за прыярытэт грамадзянскай супольнасці над дзяржавай. Ніякія карпаратыўныя, партыйныя, іншыя ідэалагічныя канцэпцыі не павінны выкарыстоўвацца для падаўлення правоў і суверэннасці асобы. БНФ за адмену антыдэмакратычных законаў, прынятых Вярхоўным Саветам БССР на працягу 1988—89 гг.; за скасаванне шостага артыкула Канстытуцыі БССР аб кіруючай ролі КПСС, за свабоду ўтварэння і дзейнасці розных партый, незалежных прафсаюзаў, за развіццё дэмакратычнай сацыяльнай інфраструктуры грамадства.

Высакародная задача нацыі — выратаваць і адрадзіць родную мову. У гэтай справе, якая патрабуе немалога часу, стварэння неабходных умоў і добрай волі ўсіх людзей, БНФ спадзяецца на падтрымку ўсяго насельніцтва рэспублікі — незалежна ад нацыянальнасці. БНФ адстойвае прынцып нацыянальна-культурнай аўтаноміі для прадстаўнікоў усіх іншых нацыянальнасцей, што жывуць на Беларусі, і выступае за юрыдычнае забеспячэнне гэтага прынцыпу.

Неабходным у платформе прызнаецца распрацоўка і ўкараненне нацыянальнай сістэмы адукацыі, яе дэідэалагізацыя і дэмілітарызацыя. БНФ лічыць таксама, што адным з найгалоўнейшых фактараў з'яўляецца адраджэнне рэлігійнасці, духоўнасці культуры, адстойвае правы вернікаў усіх канфесіяў нашага краю.

Такая, у сціслым пераказе, вядома, праграма БНФ. Яна створана з усведамленнем таго, што выбары ў Вярхоўны Савет рэспублікі і мясцовыя Саветы павінны стаць паваротнымі для лёсу нашай Бацькаўшчыны. Прадстаўнікі руху ідуць на іх з ідэямі палітычнага і эканамічнага плюралізму, культурнага адраджэння, з ідэямі дэмакратыі, свабоды і суверэнітэту Беларусі.

**— Дзякуй, Юрый Віктаравіч, за гутарку, за ўдзел у «Выбарчым клубе «ЛіМа».**

# ШАНАВАЦЬ СВАЮ ГОДНАСЦЬ

(Пачатак на стар. 5).

Але справа не толькі ў студэнтах — справа ў духоўным крызісе, які перажывае сёння наш народ, які пасля дзесяцігоддзяў фізічнага і маральнага тэрору, дэнацыяналізацыі выйшаў духоўна надломаным. Менавіта ў гэтым і ёсць прычына многіх нашых бед, таго, што працэс беларусізацыі адбываецца так пакутліва і марудна — значна марудней, чым адразу пасля рэвалюцыі, гэта значыць пасля стагоддзяў сацыяльнага і нацыянальнага ўціску.

Мінулае цяжка адбілася на стане душы народа, на яго свядомасці і светаадчуванні. Пройдуць, мабыць, не толькі гады, але і дзесяцігоддзі, пакуль беларус пазбавіцца комплексу непаўнацэннасці, няпэўнасці свайго становішча, абыякавасці да ўласнага лёсу. А пакуль што даводзіцца затрачваць час і энергію на доказ неабходнасці таго, што іншымі людзьмі прызнаецца само сабой зразумелым, спрадвеку належным, адмаўляцца ад чаго здольны, бадай, толькі псіхічна ненармальны ці здаровы з «вывіхнутай» свядомасцю чалавек.

Ненармальнасць, у якой мы апынуліся і якая ў першую чаргу залежыць ад вельмі нізкага ўзроўню культуры ў рэспубліцы, будзе, можна спадзявацца, значна пераадолена пасля ўвядзення закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы.

Але наіўны той, хто мяркуе, што дастаткова дамагчыся фармальнай замены адной мовы на іншую — і ўсё будзе вырашана. Ад таго, што чыноўнік, які размаўляў дасюль на бязліка-канцылярызаванай рускай мове, загаворыць заўтра на пакалечанай беларускай і застанецца па сваёй сутнасці бескультурным, глухім да патрэб канкрэтнага чалавека, да духоўных патрэб народа, — зменіцца вельмі мала. Па сутнасці нічога не зменіцца, і такі працэс «беларусізацыі» лёгка будзе ў любы час павярнуць у адваротны бок. Патрэбна дэмакратызацыя, забеспячэнне рэальных, і не толькі ў мове, правоў народа, гарантый, што кашмары і жахі, якія давялося гэтаму народу перажыць, больш ніколі не паўторацца.

Мяркую, што кіраўніцтву рэспублікі варта зараз, пасля надання дзяржаўнасці беларускай мове, звярнуцца да свайго народа з заявай, дзе будзе аналіз пройдзенага шляху, аналіз памылак, таго духоўнага крызісу, у якім мы апынуліся не проста так, незнарок, а пад кіраўніцтвам пэўных сіл, арганізацый і ўстаноў. Карацей кажучы, каб захоўваць за сабой кіраўнічыя функцыі, трэба хоць бы павінавацціца за зробленае.

Менавіта гэта дапаможа людзям патрыятычна самавызначыцца, паспрыяе таму, каб людзі з лёгкай душою ўключыліся ў гарантаваны законам працэс нацыянальнага Адраджэння.

Ну а нашы сённяшнія вынікі? Яны да смешнага мізэрныя. Сотня беларускамоўных садкоў і класаў у гарадах складае нязначны працэнт ад агульнай колькасці навучэнцаў. Дадамо сюды некалькі шыльдачкаў на аўтобусах, указальнікаў на дарогах, аб'явы па-беларуску ў Мінскім метро... Божа, ды ўсяго гэтага да слёз, да камічнага мала для вялікага (як колькасцю, так і сваёй гісторыяй) народа, які абуджаецца і падымаецца з каленяў на ногі. Дык давайце яму дапаможам у гэтым.

*Чытаючы часопісы*

# «ЦІКАВЫЯ ЛЮДЗІ МЫ—БЕЛАРУСЫ!»

У другім нумары часопіса «Спадчына» найперш прыцягваюць увагу публіцыстычныя артыкулы Янкі Купалы, невядомыя сучаснаму чытачу.

Адзін з іх — «Больш самачыннасці» — быў апублікаваны ў газеце «Беларусь» 22 кастрычніка 1919 года. З яго бачна, як інтэлігенцыя, асабліва творчая, паступова прыходзіла да разумення значнасці сацыялістычнай рэвалюцыі. У гэтым сэнсе Купала не толькі не адрозніваўся ад іншых дзеячаў культуры — і не толькі беларускай, а, можа, і больш балюча ўспрымаў змены ў жыцці, бо адчуваў, як вакол рэвалюцыйных ідэй і планаў мосціцца нямала тых, хто далёкі да лёсу беларускага народа.

Складанасць становішча, у якім апынуліся беларусы, ён, тым не менш, вытлумачваў і асаблівасцямі нацыянальнага характару:

«Цікавыя людзі мы — беларусы!

Трэба прызнацца, што якое бы ліха вакол нас і з намі ні рабілася, якіх бы мы ні перажывалі нягод і крыўд — мы гэтага як бы не бачым, а калі і бачым, то ліха церпім ды чакаем, што нехта прыйдзе і гэта наша ліха пабярэ з сабою».

Сказаўшы гэта з пэўнай доляй іроніі, Купала пералічвае ўсіх «радцаў», хто на словах дбаў пра беларускі народ, а на справе клапаціўся пра ўласныя інтарэсы. І не трэба здзіўляцца, што ў адзін шэраг з маскоўскім царом, немцамі і палякамі пастаўлены і бальшавікі. Трэба памятаць, калі, у якіх умовах гэта было напісана. Пра гэта падрабязна гаворыць ва ўступе «Публіцыстычныя артыкулы Янкі Купалы 1919—1920 гг.» В. Круталевіч. З яго відаць, чаму пясняр прыйшоў да такога вываду: «Самы найлепшы прыяцель, самы найлепшы збаўца наш ад нашага ліхалецця — гэта мы самі. І калі не хочам загінуць, калі не хочам быць вечнымі рабамі, — павінны пакінуць мы благую прывычку думаць, што нехта прыйдзе і выратуе нас з нашае бяды, з нашае няволі. Гэта ж не можа быць, каб нехта быў лепшым прыхільнікам да нас, як мы самі да сябе».

Дык што, Купала быў за нацыянальную адасобленасць? Не і не! Проста ён больш чым хто іншы разумеў і адказнасць гістарычнага моманту. Момант гэты абавязваў беларусаў праявіць і свае сілы ў будаванні новага жыцця для сваёй бацькаўшчыны, для сваіх сяліб і хат, для нашага падрастаючага маладога пакалення! Пройдуць гады, падрастуць сыны і ўнукі нашы і спытаюць нас тады: «Што зрабілі вы ў той бурны і векапомны час для сваіх патомкаў, для свайго краю?»

Як ні горка пра гэта гаварыць, але і сёння словы песняра гучаць вельмі надзённа. Як і гэтыя, заключныя: «Сама гісторыя пакліча на суд і загадае даць адказ. А які ж мы дадзім адказ, калі мы цяпер на другіх гэты адказ ускладаем?

Дык больш самачыннасці, больш смеласці збудаванню свайго новага незалежнага жыцця».

Другі артыкул — «Справа незалежнасці Беларусі за мінулы год» (абодва тэксты падрыхтаваны да публікацыі ў «Спадчыне» Я. Саламевічам) — друкаваўся ў газеце «Беларусь» у нумарах за 3 і 14 студзеня 1920 года. Гэта своеасаблівы падрахунак таго, як праходзіў працэс набыцця дзяржаўнасці на працягу года. Тут таксама кідаецца ў вочы вось такая выснова: «...незалежную беларускую рэспубліку стварылі смаленскія і маскоўскія «беларусы» па загаду з Масквы. А зроблена гэта з тактычных мэтаў, назадзёр беларускай «буржуазіі», якая стаіць на грунце незалежнасці свайго краю».

Ды толькі Купалу і на гэты раз трэба зразумець. Балела, шчымела яго душа, але дваіцца не магла. Сёй-той прыстасоўваўся да абставін, Купала ж — ніколі. Калі ён у нечым і памыляўся, дык памылкі гэтыя вытлумачваюцца складанасцю палітычнага жыцця таго часу.

Скажам, спачатку Купалу імпанавалі абяцанні Пілсудскага прадаставіць Беларусі, як і Літве, права самой вырашаць нацыянальныя праблемы, уладкоўваць дзяржаўнасць: «Начальніка Польскай дзяржавы віталі і шчыра спадзяваліся, што справа незалежнасці Беларусі цяпер стане на цвёрдым грунце, што братні польскі народ дапаможа беларусам адбудаваць сваю бацькаўшчыну, як ён адбудаваў і сваю».

Аднак спадзяванні засталіся спадзяваннямі. І Купала з горыччу зазначае: «Польскія эндэкі, замест правадзіць у жыццё даўнейшы лозунг: «вольны з вольным, роўны з роўным», пакінулі нам «плебісцыт» і прынятую соймам «рэзалюцыю», якая недвухзначна прылучае незалежную Беларусь да Польшчы».

Праз вялікія сумненні ішоў Купала да рэвалюцыі. Але гэта не было блуканнем у поцемках. «Была ідэя, — гаворыць В. Круталевіч, — што служыла паэту пуцяводнаю зоркай: вера ў тое, што менавіта народ пры любым ладзе — галоўная сіла грамадскага прагрэсу. Вера ў родны народ дапамагала Купалу адразу ж пасля заканчэння грамадзянскай вайны актыўна ўключыцца ў грамадскую дзейнасць».

Аднак нядоўга будавала Савецкая Беларусь сваю сацыялістычную дзяржаўнасць. Ужо ў другой палове дваццатых гадоў асобным дзеячам нацыянальнай літаратуры, культуры, навукі прыпісваюцца ярлыкі «нацыянал-дэмакратаў», яны

# ЛОНДАНСКІЯ СУСТРЭЧЫ

Нядаўна мне давялося наведаць Лондан. Мяне запрасілі на славянскі факультэт Лонданскага універсітэта для правядзення нарады з прафесарска-выкладчыцкім складам, які спецыялізуецца ў галіне ўсходнеславянскіх моў, у тым ліку і беларускай. У маю задачу ўваходзіла пазнаёміць слухачоў з прыёмамі і метадамі нашай навукова-даследчай работы, расказаць пра навуковыя цэнтры Беларусі, перспектывы іх далейшага развіцця. Рабочай мовай на семінары была беларуская мова.

Асабліва зацікавіліся слухачы лінгвістычнай Скарыніянай, з якой па іх просьбе я пачаў нараду. Гэта і зразумела, бо ў 1990 г. усё прагрэсіўнае чалавецтва будзе адзначаць 500-годдзе з дня нараджэння вялікага асветніка-гуманіста, заснавальніка беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання. Лонданскіх вучоных цікавіла ў гэтым плане прынцыповае і істотнае пытанне: «Якому народу найперш служыў Скарына і ў мове якога народа ён пакінуў найбольш прыкметны след?» Гэта пытанне ўзнікла ў сувязі з тым, што ў існуючай Скарыніяне вывучэнне навуковай і культурнай дзейнасці Скарыны развівалася і развіваецца ў розных краінах паразнаму. Скажам, польскія вучоныя скарынаўскае навуковае і культурнае наватарства ставяць у шэраг дасягненняў сваіх навуковых і культурных дзеячаў, італьянскія, чэшскія і іншыя — сваіх... Тое, што Скарына ўсведамляў сваю асветніцкую ролю ў еўрапейскім кантэксце, — гэты агульнавядомы тэзіс слухачам нарады быў зразумелы. Што тычыцца лінгвістычнага наватарства беларускага першадрукара, то тут мне давялося кіравацца надзейным фактычным матэрыялам на карысць беларускай мовы. На нарадзе станоўча быў ацэнены уклад беларускіх і іншых савецкіх вучоных у падрыхтоўку і выданне персанальнай энцыклапедыі «Францыск Скарына і яго час», якая мае шырокі попыт у Вялікабрытаніі і за яе межамі. Адначасова лонданскія калегі шкадавалі, што ў гэтым энцыклапедычным даведніку адсутнічаюць шматлікія працы замежных аўтараў пра жыццё, дзейнасць і светапогляд асветніка, пра мову і мастацкае аздабленне друкаваных выданняў Скарыны. Згадваліся некаторыя кірункі, што адсутнічаюць у існуючай Скарыніяне. Напрыклад, разуменне Скарынам мастацтва, пра якое ён у кнізе «Быццё» пісаў: «Восхощеш ли пакъ учитися **Музики** тоесть **Певници.** Премножество стиховъ и песнеи светыхъ, по всеи книзе знаидеши». Важна пры гэтым мець на ўвазе, што слова **певница** першадрукар разумеў не толькі як музыка наогул, але як музычны інструмент.

Усведамляючы гэты недагляд у скарынаўскай энцыклапедыі, я звярнуўся ў Беларускую бібліятэку і музей імя Францішка Скарыны, створаныя на ахвяраванні нашых суайчыннікаў у Вялікабрытаніі, там захоўваюцца унікальныя выданні пра Беларусь і наш народ на розных мовах, у тым ліку і багатая калекцыя літаратуры па скарыназнаўстве. У свой час Адам Мальдзіс таксама наведаў гэты цэнтр беларусазнаўства, пра што і расказаў у сваіх публікацыях «Оксфардскі тыдзень» («ЛіМ») і «Англійскі дзённік» («Полымя»). Мне далі магчымасць плённа там папрацаваць, выявіць і зрабіць неабходныя шматлікія ксеракопіі Скарыніяны тых аўтараў, якія адсутнічаюць у энцыклапедычным даведніку «Францыск Скарына і яго час». Гэтай літаратурай можна папоўніць не толькі музей-лабараторыю Скарыны, па адкрыцці якога праводзіцца вялікая праца ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце, але і персанальную скарынаўскую энцыклапедыю, што ў дапоўненым выглядзе рыхтуецца да выдання на рускай мове.

На нарадзе выказваліся самыя розныя думкі па некаторых навуковых праблемах, актыўна ставіліся і вырашаліся дыскусійныя пытанні. А галоўнае, з'явіўся імпульс у далейшым плённым творчым супрацоўніцтве.

Безумоўна, я цікавіўся не толькі цэнтрам Лондана, універсітэтам і яго ваколіцамі, але і прадмесцямі. У прадмесцях сканцэнтравана жывуць і працуюць кітайцы, індусы, японцы, а таксама славянскія народы, у тым ліку і беларусы. Наогул у Вялікабрытаніі пражывае каля 5000 беларусаў, значная колькасць з іх асела ў Лондане, дзе створана і дзейнічае іх згуртаванне. Яно аб'ядноўвае пяць аддзяленняў, размешчаных у тых гарадах або паблізу іх, дзе жывуць беларусы. Згуртаванне — афіцыйна зарэгістраваная ў парламенце арганізацыя, яно мае свой Статут, у адпаведнасці з якім яго сябры абавязаны плаціць складкі (пяць англійскіх фунтаў стэрлінгаў у год). Сябры гэтай арганізацыі атрымліваюць ад кіраўніцтва інфармацыю пра гісторыю беларускага народа, яго побыт, культуру, удзельнічаюць у святкаванні нацыянальных абрадавых святаў, угодкаў, падзей, што адбываюцца ў межах Беларусі. Раз на год у Лондане збіраецца з'езд згуртавання, дзе выбіраюцца кіруючыя органы: старшыня, намеснікі, сакратар і скарбнік. Нязменным старшынёй згуртавання на працягу апошніх 19 гадоў з'яўляецца Ян Міхалюк, які па меры неабходнасці па службовых справах бывае ў прэм'ер-міністра краіны Маргарэт Тэтчар. Крыніцамі фінансавання арганізацыі, апроч складак, з'яўляюцца тры беларускія дамы — у Лондане, у Манчэсцеры і ў Брэтфардзе. Частка грашовых сродкаў паступае ў распараджэнне згуртавання беларускіх клубаў і чайных з беларускімі нацыянальнымі стравамі. Штогод згуртаванне робіць справаздачу дзяржаве пра сваю дзейнасць, фінансавыя даходы і расходы. Згуртаванне падтрымлівае кантакты з аналагічнымі арганізацыямі іншых краін — ЗША, Канады, Аўстраліі, Францыі, Італіі, Польшчы.

Асобна ў Лондане існуюць тры дамы беларускай каталіцкай місіі Вялікабрытаніі, якую ўзначальвае апостальскі візітатар беларусаў-каталікаў Аляксандр Надсан. У гэтых дамах пражываюць і англічане, і беларусы розных узростаў. Побач стаіць яшчэ адзін дом, у якім размешчана Беларуская бібліятэка і музей імя Францішка Скарыны, створаныя на ахвяраванні беларусаў. У гэтым доме мне давялося жыць.

Лонданскія беларусы запрасілі мяне на сустрэчу і настойліва прасілі расказаць пра Беларусь, яе народ, гісторыю, навуку, культуру, пра перабу-

абвінавачваюцца ў «нацыянал-ухіле». Пра гэта — у артыкуле Ю. Смірнова і М. Сташкевіча «Цана ісціны», змешчаным у гэтым жа нумары «Спадчыны». Янку Купалу спачатку, праўда, не чапалі. Усё ж вялікімі былі яго аўтарытэт і папулярнасць у народзе. Але, як гаворыцца ў артыкуле, «у 30-я гады пагроза расправы навісла і над класікамі беларускай літаратуры Янкам Купалам і Якубам Коласам». Купалу прыгадалі асобныя публікацыі 1919—1920 гадоў. Як сведчыць В. Круталевіч, «скажаючы іх сэнс, змусілі (Купалу. — **А. М.**) пайсці на публічнае пакаянне, асудзіць сябе самога за тое, што, будучы носьбітам «нацыянал-дэмакратычнай заразы» яшчэ з часоў «Нашай Нівы», ён «прыняў самы блізкі ўдзел у контррэвалюцыйнай рабоце вядомых беларускіх нацыянал-дэмакратаў».

У канцы ж 1930 года, адчуваючы, што яго па-ранейшаму адносяць да ворагаў, народны пясняр спрабаваў пакончыць жыццё самагубствам, але быў уратаваны ўрачамі. У артыкуле Ю. Смірнова і М. Сташкевіча прыводзіцца развітальны ліст Я. Купалы тагачаснаму старшыні ЦВК СССР і БССР т. Чарвякову. У канцы ліста ён пісаў: «Шкадую толькі, што не змагу болей прымаць удзел у вялікім будаўніцтве, якое разгарнула партыя і Савецкая ўлада ў БССР. Няхай жа жыве гэтае новае творчае жыццё для шчасця ўсяго чалавецтва».

Наступная публікацыя — вяртанне спадчыны нядаўняй. Часопіс прапануе невялікую паэму Л. Геніюш «Маёй бабусі» — «кранальную, шчырую размову з мінулым, як заўважае ў прадмоўцы Б. Сачанка, — аповяд пра жыццё чалавека вялікага сэрца і добрай высакароднай душы — простай, зусім, здавалася б, непрыкметнай жанчыны». Пашыраецца чытацкае ўяўленне аб творчасці паэтэсы, якую дагэтуль у асноўным ведалі як аўтара вершаў.

Чаму пра Паўліну Мядзёлку ледзь не легенды ходзяць? Ды таму, што да нядаўняга часу многае з яе жыцця, у тым ліку і асабістага, замоўчвалася. Нават у рамане Алега Лойкі «Як агонь, як вада» пра П. Мядзёлку сёе-тое недагаворана. У такім разе лепш за ўсё прачытаць дакументы свайго часу. Іх і прапануе У. Мехаў у нарысе «Пісьмы Паўліны Мядзёлкі». Публікацыя, шчыра скажам, зробіць гонар любому выданню.

Выдатны дзеяч беларускай нацыянальнай культуры Баніслаў Эпімах-Шыпіла таксама паўстае ў крыху новым святле, дзякуючы перадрукаванню (праўда, са скарачэннямі) з часопіса «Калосьсе» за 1935 год выступлення Адама Станкевіча «на жалобнай акадэміі, ладжанай Бел. Інст. Гасп. і Культ. у Вільні 9.XII.1934 г.» — «Прафесар Браніслаў Эпімах-Шыпіла. З яго жыцця і працы».

І, нарэшце, несумненную цікавасць выкліча змешчаны пад рубрыкай «Помнікі сусветнай культуры пачатак «Новага Запавета...» ў перакладзе з арыгінала А. Клышкі. Пра гэтую падзвіжніцкую работу перакладчыка, пра авалоданне ім грэчаскай мовай, пра тое, чаму выбар спыніўся менавіта на «Новым Запавеце...», «ЛіМ» ужо расказваў у гутарцы Г. Тычкі з А. Клышкам.

А яшчэ ў часопісе — апавяданне У. Арлова «Рандэву на манеўрах», пераклад В. Чамярыцкага «Аповесці пра Усяслава Полацкага» (з прадмовай, вядома), артыкул А. Цітова «У цені двухгаловага арла» (пра герб «Пагоня»).

Але я, здаецца, пачынаю пералічваць усе матэрыялы нумара...

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

*Культура мовы*

# СПОНСАР ЦІ ФУНДАТАР?

За гады актыўных сацыяльна-палітычных і навукова-тэхнічных перамен у нашу мову прыйшло мноства запазычанняў з іншых моў. Гэты працэс непазбежны, але калі яго не вывучаць і не рэгуляваць адпаведным чынам, то ён прыводзіць да негатыўных вынікаў. Варта пагартаць «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы», каб пераканацца, што ў ім разам з многімі беларускімі словамі, якія раней былі адзінымі нарматыўнымі назвамі, раўнапраўнае (а то і пераважнае) месца занялі рускія адпаведнікі-дублеты.

Апошнім часам у мову перыядычнага друку проста ўварвалася слова **спонсар** і набыло такую папулярнасць, што сустракаецца амаль у кожным нумары газет і часопісаў. З'явілася назва ў сувязі з новай (дакладней, даўно забытай) формай узаемаадносін, калі пэўная асоба, установа ці прадпрыемства ахвяруе грашовыя, матэрыяльныя сродкі, працоўныя рэсурсы на патрэбу іншай асобе, установе, прадпрыемству. Слова запазычана праз рускую з англійскай мовы. У рускай мове яго, напэўна, можна апраўдаць: сінанімічныя назвы **основатель, учредитель, жертвователь** усё ж адрозніваюцца ад назвы спонсар і сэнсавымі, і стылістычнымі адценнямі.

Што да беларускай мовы, то яна свабодна магла б абысціся і без гэтага слова. У нас ёсць з такім самым значэннем слова **фундатар,** якое функцыянiравала на працягу некалькіх стагоддзяў. Хоць яно таксама запазычанае з польскай мовы, (а польскай—з лацінскай), але за доўгі час ужывання арганічна ўпісалася ў лексічную сістэму беларускай мовы і не ўспрымаецца як чужароднае. У ТСБМ **фундатар** прыводзіцца як слова актыўнага ўжывання, нарматыўнае для сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Сустракаецца яно і ў дыялектных слоўніках, у прыватнасці, у «Слоўніку беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча». Мне асабіста неаднаразова даводзілася чуць яго непасрэдна ў жывой гаворцы. Успамінаецца вясна, калі мы, гарадзенцы, ездзілі пакланіцца Францішку Багушэвічу. У Жупранах прыбралі магілку песняра, пасадзілі кветкі, пасля рашылі зайсці ў мясцовы касцёл паглядзець партрэт Францішка Багушэвіча. Ля ўвахода сустрэлі вясковых кабет і дзеля цікавасці папыталі, ці ведаюць яны што пра паэта-земляка. Кабеты наперабой пачалі апавядаць, што і ведаюць, і шануюць. Запомніліся словы:

— Ён жа во й фундатарам касцёла нашага быў. Там і партрэт яго вісіць. Былі знялі, а тады зноў павесілі. Пайдзіце, паглядзіце.

У беларускай мове ад слова фундатар развілося цэлае гняздо аднакарэнных слоў: **фундаваць, фундзіць, зафундаваць, зафундзіць, фундацыя.** Украінская мова таксама ведае гэта слова яшчэ з больш разгалінаванай сеткай аднакарэнных утварэнняў: **фундатор, фундаторка, фундаторський, фундація, фундувати, фундуватися** і інш.

Чаму ж тады слова **фундатар** не сустракаецца на старонках перыядычнага друку? Ды таму, што чужое мы лепш і больш ведаем, чым сваё. Навошта шукаць, капацца ў слоўніках, траціць час? Куды прасцей узяць гатовае ці скалькаваць з рускамоўных выданняў...

А там праз гадоў дваццаць у лексікаграфічных даведніках мы знойдзем слова **фундатар** (як і многія іншыя неапраўдана выцесненыя словы) з паметкай «устарэлае».

**М. ДАНІЛОВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

г. Гродна.

дову і дэмакратызацыю. У час гэтай сустрэчы і пасля яе былі пытанні рознага зместу, сярод якіх і такія: «Ці не рызыкуеце вы, што апынуліся ў асяроддзі беларусаў-эмігрантаў, бо пра нас дзе-нідзе гавораць, што мы ворагі савецкага народа?» Я расказаў ім крыху пра свой лёс, пра суровыя гады Вялікай Айчыннай вайны і што мне давялося перажыць у нямецка-фашысцкіх канцлагерах... Прысутныя пазнаёміліся з выстаўкай маіх кніг, якія, як і іншыя беларускія выданні, захоўваюцца ў фондах бібліятэкі.

У час гэтай сустрэчы я абвясціў Зварот Беларускага фонду культуры, дзе гаварылася не толькі пра дзейнасць гэтай грамадскай арганізацыі, але і пра магчымасць удзельнічаць у яе рабоце нашым суайчыннікам за мяжой: ахвяроўваць на рахунак фонду грашовыя сродкі, рэліквіі, помнікі айчыннай і сусветнай культуры, творы мастацтва і іншыя каштоўнасці. Дзвесце фунтаў англійскіх стэрлінгаў уручылі мне ў Лондане з мэтавым прызначэннем — Гомельскаму дзяржаўнаму універсітэсу імя Ф. Скарыны для музея-лабараторыі імя першадрукара. Гэты дар будзе выкарыстаны ў адпаведнасці з пажаданнем ахвярадаўцаў. Знамянальна, што на гэтай сустрэчы нашы суайчыннікі гаварылі толькі на беларускай мове, якой яны карыстаюцца ў паўсядзённым жыцці, імкнуцца вывучаць і ўдасканальваць яе. Беларусы ў Англіі маюць магчымасць чытаць літаратуру, што захоўваецца ў бібліятэцы на роднай мове, ёсць тут і новыя паступленні з Беларусі, якія ў якасці кнігаабмену паступаюць з бібліятэкі імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР. Праўда, мне было нязвыклым маўленне нашых суайчыннікаў, заснаванае на былой граматыцы Браніслава Тарашкевіча, па якой вучыліся ў нас да рэформы правапісу 1933 г.

Яшчэ адной жыццядзейнай крыніцай нашых суайчыннікаў у Вялікабрытаніі з'яўляецца створанае ў 1954 г. у Лондане англа-беларускае таварыства, якое ўзначальвае англійскі прафесар славянскага факультэта Лонданскага універсітэта Джым Дзінглі. Летась, дарэчы, Д. Дзінглі наведаў наш край і рэдакцыю штотыднёвіка, пра што была змешчана публікацыя на яго старонках. Джым Дзінглі выказаў прапановы на чарговым пасяджэнні рэкамендаваць членам англа-беларускага таварыства выбраць доктара філалагічных навук А. І. Мальдзіса і аўтара гэтых радкоў ганаровымі віцэ-прэзідэнтамі таварыства.

І яшчэ, як паведамлялася ў «ЛіМе», ствараецца брытанскае аддзяленне ТБМ. Мяне абралі ганаровым членам гэтага Таварыства і прасілі прыняць удзел у падрыхтоўцы падручніка беларускай мовы для тых, хто ў Вялікабрытаніі вывучае ці мае намер вывучыць беларускую мову, а таксама дапаможніка для настаўнікаў. Падручнік будзе дакамплектаваны кружэлкамі з узорамі беларускага літаратурнага маўлення. Гучала таксама настойлівая просьба да нашых беларусаў на бацькаўшчыне — паскорыць падрыхтоўку і выданне англа-беларускага слоўніка.

Хацелася мне паглядзець у Лондане многае, а вольнага часу было мала. Па маёй просьбе мне арганізоўвалі гарадскія экскурсіі, я меў магчымасць наведаць сціплыя кватэры, дзе жылі Карл Маркс і Уладзімір Ільіч Ленін. Асабліва вялікае ўражанне засталося ад наведання Брытанскага музея, дзе сканцэнтраваны буйнейшыя ў свеце калекцыі твораў першабытнага і старажытнага мастацтва.

На развітанне гасцінныя гаспадары казалі мне: «Мы заўсёды будзем рады сустрэчы з вамі».

**Уладзімір АНІЧЭНКА,**
**доктар філалагічных навук,**
**прафесар.**

г. Гомель.

# ПАМЫЛКІ, ПАМЫЛКІ...

Куды ні ткніся, усюды ў нас памылкі — граматычныя, лексічныя. Ствараецца часам уражанне, што ёсць людзі, якія робяць іх наўмысна, каб нашкодзіць справе нацыянальнага адраджэння. У Гродне змянілі ўказальнікі назваў вуліц — далі на беларускай мове, але нарабілі памылак. Грашаць памылкамі нашы газеты, часопісы, быццам няма там карэктараў, рэдактараў. Вось 11-ы нумар «Беларусі» (1989 год), дзе на вокладцы пад здымкам красуецца: «За дапамогай да дэпутата». Хаця па-беларуску трэба «па дапамогу». Праўда, у нас ужо выраслі пакаленні, для якіх памылкі тут няма. І ў рэдакцыі часопіса, напэўна, лічаць, што выкарысталі правільную форму. Нават некаторыя спецыялісты-філолагі будуць яе абараняць. Вывесілі ж неяк мае калегі аб'яву, у якой быў тэкст: «За даведкамі звяртацца на кафедру», і хоць бы што, памылкі не прызналі, спасылаючыся на Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. А там сапраўды ёсць штось падобнае. Нашы гора-слоўнікі трэба выпраўляць ды выпраўляць, калі хочам падняць родную мову да дзяржаўнага ўзроўню. Там жа яна будзе відаць усім.

А пакуль адгорнем кнігу, якую не кожны будзе чытаць, але многім патрэбную. Гэта энцыклапедычны даведнік «Францыск Скарына і яго час». На старонцы 220 выдрукавана: «Ф. Скарына ажаніўся на ўдаве...», тое ж на старонцы 227: «С. быў жанаты на ўдаве». Значыць, гэта ўжо не памылка аўтара, а пазіцыя рэдакцыі, якая лічыць, што беларуская літаратурная норма («жаніцца з удавою»), мабыць, ужо састарэла...

Такіх выпадкаў у друку сустракаем сёння многа. Хаця гэта часцей менавіта выпадкі, адхіленні ад нормы. Але бывае, што памылка так распаўсюджваецца, што становіцца, па сутнасці, правілам і набывае сур'ёзную небяспеку. З ёю тады цяжка змагацца: яна падмацаваная аўтарытэтам усеагульнага ўжытку.

**Аляксей ПЯТКЕВІЧ.**

г. Гродна.

# ЦІ ПАЗНАЮЦЬ СВЕТ?

Купіў нядаўна ў кнігарні тоненькую кніжачку «Пазнай свет». Аўтары яе В. М. Мінаева, А. В. Міхайлава, Г. А. Панасенка. Аказалася, што гэта кніжачка на 16 старонак — сшытак для вучняў другіх класаў нашых беларускіх школ. У ім так і напісана: «Вучэбны дапаможнік. Допушчаны Міністэрствам асветы БССР. Выданне другое. Мінск, «Народная асвета», 1988».

У сшытку ёсць шмат прыгожых малюнкаў. Але да гэтых малюнкаў напісаны і тэкст. На трэцяй старонцы пачынаю чытаць: «Разгледзь рысункі...», а на дзевятай чытаю яшчэ «назаві адным словам **нарысаваныя расліны...**», ці «назаві **нарысаваных** птушак». Няўжо аўтары не ведаюць, што правільна і па-беларуску будзе **малюнак, намаляваныя, намаляваных.** А ў іх атрымалася калька з рускай мовы.

Чытаю далей. «Якія помнікі савецкім воінам і партызанам ёсць у тваім горадзе (сяле)?» — пытаюць аўтары ў другакласнікаў. Чаму ў сяле, а не ў вёсцы?

Шэсць разоў у сшытку ўжываецца словы «адзнач знакам»... Паўстае пытанне: чаму адзнач? Правільна трэба **абазнач,** адзначыць можна за добрую вучобу ці працу. І чаму **карандашом!** Ёсць прыгожае беларускае слова **аловак.**

Што змогуць адказаць вучні другога класа на пытанне аўтараў: які горад, у тваёй рэспубліцы самы **галоўны!** Усе гарады ў рэспубліках галоўныя. Праўда, кожная рэспубліка мае сваю сталіцу. Можа, так і трэба было паставіць пытанне: які горад з'яўляецца сталіцай тваёй рэспублікі?..

Здзіўляе пытанне і на апошняй старонцы сшытка: «разгледзь рысункі жывёл, якія занесены ў Чырвоную кнігу Беларускай ССР. Якія людзі ахоўваюць іх?» Іх павінны ахоўваць **усе** людзі нашай рэспублікі — вось мой адказ аўтарам...

Прыгожая нібыта назва ў сшытка «Пазнай свет». Але ці **пазнаюць** свет? Мо яго ўсё ж **спазнаюць!** Вось і атрымліваецца, што кніжачка наўрад ці дапаможа другакласнікам у авалоданні беларускім словам, у выхаванні ў іх любові да прыроды і гісторыі роднага краю...

**С. ЧЫГРЫН.** ,

г. Слонім.

**Міхась ШЭЛЕХАЎ**



## Палымяныя маторы

«...А вместо сердца — пламенный мотор».
З песні.

Што з намі будзе... Ды што з намі будзе?
Сэрца пакіне пякельныя грудзі,
Сонца загіне—і сон ахіне.
Пойдзе бяздомнае сэрца бадзяцца,
Стукацца ў шыбы, насустрач кідацца!
Але жывых не кране.

Цвёрды, як цэгла муроў Вавілона,
Дзікі нашчадак сляпога закона
І не заўважыць ля ног
Беднае сэрца, што скача сабакам,
Хоча аб нечым сказаць небаракам...
Ды не цікавіць іх Бог.

Хораша будзе без сэрцаў нам жыці,
Брата душыць і дзяцей не хрысціці,
Бога не клікаць: «Ратуй...»
Красці, хлусіць і ў калодзеж пляваца,
І, як камп'ютэр, лічыць—не збівацца...
Сэрца, сябе ахвяруй!

Што з намі будзе... А што з намі будзе?
Тое і будзе, жалезныя людзі,
Меч—і нябесны дакор.
Кожны па праву сваё атрымае
За адзічэнне радзімага краю,
За палымяны матор.

Покуль далёкі ён, час Вавілона,
Кінем у дрэнь металічнага лома,
Людзі, маторы свае!
І ў апусцелыя грудзі Радзімы
Вернецца сэрца, жывое на дзіва!
Свята яго настае.

## Імхі

Цудоўны боскія шляхі...
Ды райскі дзе будынак?
А за людзьмі паўзуць імхі!
Не скора перапынак.

І што ні век—куём мячы
І ўсё ламаем сохі...
А каб галовы не сячы—
Няма такой эпохі!

З'явіўся я з бацькоўскіх слёз...
Ды райскі дзе будынак?
Ляціць кудысьці паравоз!
Хто скажа, дзе прыпынак?

Але за грукатам гадоў
І за вясёлым часам
Забыўся розум стрымгалоў—
Што едзе трэцім класам!

А за людзьмі паўзуць імхі,
І ўсё—у той будынак!
І лепей ведаюць яны,
Дзе будзе перапынак.

## Белы абаронца

Ліквідуюцца белыя плямы апошніх нягод.
І калі яны знікнуць (а некалі знікнуць яны!),
Хай апошнюю белую пляму заўважыць народ
Гэтай цемры. І будзем той Белаю Плямаю—мы.

Не знішчай, ліквідатар! На могілках тайны сваёй
Што, апроч лебяды, ты ў букет на рахунак збярэш?
Хто пяе табе, браце, пяе пахавальнай трубой?
І калі ты сам белы—навошта ты з чорным пяеш?

Гаварылася некалі—гэтае слова жыве:
«Не хадзіце на сходы няправедных, каб
не грашыць!»
Дык чаму, браце, сілы нам белай сваёй не стае?
І да чорнай ідзём—і па-чорнаму вучымся жыць.

Паглядзі, гэта—могілкі нашых няшчасных ахвяр!
Белых плямаў, якія падобны да нашых дзяцей...

*Вяртаючыся да надрукаванага*

# ШТО ТРЭБА ДЛЯ ПАРАЗУМЕННЯ

29 ВЕРАСНЯ мінулага года ў «ЛіМе» быў змешчаны артыкул Анатоля Грыцкевіча «Прынцыпы» і факты». Змест яго досыць выразна акрэсліваўся падзагалоўкам: «Вытокі дагматычнага падыходу да гісторыі Беларусі феадальнага перыяду». Паразважаўшы аб гэтых вытоках, аб прычынах крызісу нашай гістарычнай навукі, аўтар артыкула — нагадаем чытачам — так сфармуляваў надзённыя задачы беларускіх гісторыкаў: «Па-першае, вярнуць належнае месца працам і палажэнням класікаў марксізму-ленінізму, што датычаць гісторыі Беларусі феадальнага перыяду. Па-другое, перайсці на новыя пазіцыі і скончыць урэшце паўтараць закамуфляваныя палажэнні рускіх дваранскіх манархічных і клерыкальных гісторыкаў. Па-трэцяе, разглядаць увесь корпус разнастайных гістарычных крыніц, а не асобныя факты, карысныя толькі для сваёй канцэпцыі. А самае галоўнае — памятаць словы У. І. Леніна аб тым, што нам патрэбна поўная і праўдзівая інфармацыя».

Як відаць хоць бы з гэтых заключных радкоў, артыкул насіў аналітычны, памяркоўны характар, палажэнні і высновы аўтара былі досыць празрыстыя і абгрунтаваныя, яны наўрад ці давалі падставы для рознагачытання, для таго, каб убачыць у іх нешта іншае, акрамя таго, што ў іх ёсць.

Тым не менш, неўзабаве мы атрымалі артыкул доктара філасофскіх навук, прафесара В. Акулава «Час паразумецца», напісаны ў форме адкрытага пісьма А. Грыцкевічу ў сувязі з ягонай лімаўскай публікацыяй. Мы ў рэдакцыі бачылі, вядома, што сувязь гэтая, бадай, толькі ўмоўная, што ў артыкуле А. Грыцкевіча вычытаць тое, што вычытаў В. Акулаў, можна толькі з вялікімі высілкамі. Аднак жа сам ліст падаўся нам цікавым — ну, скажам, хоць бы спасылкамі на некаторыя не надта сёння вядомыя нам творы К. Маркса і Ф. Энгельса. У дадатак падкупляла і форма артыкула (адкрыты ліст), якую абраў В. Акулаў, наш сталы і паважаны аўтар. І мы вырашылі змясціць ягоны ліст-артыкул (гл. «ЛіМ» за 10 лістапада 1989 года), зважаючы на тое, што ўрэшце апошняе слова — за чытачом, і спадзеючыся на яго, чытацкі, калектыўны розум і дасведчанасць.

Рэакцыя чытачоў на публікацыю «Час паразумецца» аказалася і актыўнай, і эмацыянальнай, і ў многім адназначнай (адгукнуліся пераважна чытачы зацікаўленыя — прафесійныя гісторыкі, навукоўцы, краязнаўцы, культработнікі).

У лістах часцей за ўсё — не агульныя разважанні, а спасылкі на канкрэтныя гістарычныя падзеі, на з'явы і факты нашай даўніны.

Пачытаем некаторыя з гэтых лістоў.

«Калі б я не чытала артыкула А. Грыцкевіча «Прынцыпы» і факты», — піша гісторык **Л. Хмяльніцкая** з Віцебска, — дык пасля «адкрытага ліста» В. Акулава можна было б падумаць, што наш шаноўны беларускі гісторык сапраўды «не пераадолеў спакусы пачаставаць чытачоў сюжэтам казкі пра «каварнага» «старэйшага брата», які праглынуў «двунадесять языков». Але ж — той, хто мае вочы, хай бачыць — артыкул А. Грыцкевіча зусім не аб тым. А. Грыцкевіч нават і не спрабуе разглядаць тут «гісторыю ўзаемаадносін двух нашых братніх народаў», і абвінавачваць аўтара ў тым, што ён сее непрыхільнасць да рускага народа на падставе гэтага артыкула, прабачце, проста непрыгожа».

Далей наша віцебская чытачка гаворыць аб тым, што, паспрабаваўшы звергнуць аўтарытэты К. Маркса і Ф. Энгельса, В. Акулаў тут жа спасылаецца на іншыя аўтарытэты. Апошнімі для яго аказваюцца... М. Каяловіч і М. Доўнар-Запольскі. Што ж атрымліваецца, пытаецца Л. Хмяльніцкая. А. Грыцкевіч у сваім артыкуле выкрывае механізм і вытокі ўтварэння сённяшняга дагматычнага падыходу да гісторыі Беларусі ў асяроддзі дваранска-клерыкальных гісторыкаў, а В. Акулаў ухваляе асноўных апалагетаў, вытворцаў самой канцэпцыі.

Л. Хмяльніцкая, разумеючы, што кароткі водгук не дае магчымасці паразважаць наконт усіх згаданых у артыкуле В. Акулава гістарычных фактаў, больш падрабязна запыняецца на адным — на вайне паміж Масквою і Польшчай у XVII стагоддзі. «В. Акулаў, — гаворыць яна, — згадвае выказванне М. Доўнар-Запольскага: «...Беларусы самі прызывалі вялікаросаў, наладжвалі сувязь з імі, здраджвалі палякам, але як толькі яны адчулі на сабе цяжар маскоўскага кіравання, яны апынуліся ў безвыходным становішчы і пачалі памалу ізноў цягнуць да Польшчы». А вось цытата з кнігі «Віцебск. Гісторыка-эканамічны нарыс», якая была выдадзена калектывам аўтараў ужо ў 1974 годзе: «Адным з першых гарадоў, які добраахвотна адчыніў вароты (1654) маскоўскаму цару, быў Віцебск». «Прынцыпы» ў гэтых дзвюх цытатах, як бачым, агульныя. Але звернемся да фактаў.

Яшчэ ў XVI ст. Віцебск быў досыць умацаванай крэпасцю. У сувязі з тым, што знаходзіўся паблізу рускай мяжы, ён неаднаразова падвяргаўся нападам. У «Витебской старине» А. П. Сапунова знаходзім звесткі аб тым, што ў 1516 г. рускія войскі напалі на Віцебск, замак узяць не змаглі, затое ваколіцы і пасады ператварылі ў попел. Тое ж паўтарылася ў 1519, 1534, 1536, 1562, 1568 гг. «Адчуць на сабе цяжар маскоўскага кіравання» віцяблянам давялося толькі пасля 1654 г., але з «маскоўскімі парадкамі» яны сутыкнуліся значна раней: у 1519 г. маскоўскія ваяводы «с сильною татарскою конницею приступили к Полоцку и Витебску»; у аблозе Віцебска ў верасні 1568 г. у войску ваяводаў Шарамецева, Бутурліна і Сабурава знаходзілася 6 тысяч татар. «Жыхары, зведаўшы аб жорсткасці татар, схаваліся ў замку», — піша Сапуноў («Витебская старина», т. 1, Віцебск, 1883, стар. 576). Дык ці варта пасля гэтага высоўваць «чисто умозрительный» тэзіс аб зніканенні «натуральнай цягі беларусаў да аднапляменнікаў» толькі пасля ўваходу іх тэрыторыі ў склад Расійскай дзяржавы?

Што ж тычыцца «добраахвотнай здачы» Віцебска маскоўскаму цару ў 1654 г., дык доўжылася яна больш за тры месяцы, баярын Шарамецеў узяў горад толькі пасля 14-тыднёвай аблогі. Цар Аляксей Міхайлавіч загадаў знішчыць жыхароў Віцебска. Пераможцы разбурылі замкі, узялі з віцяблян вялізную кантрыбуцыю, а палонных разаслалі ў аддаленыя гарады».

«В. Акулаў у артыкуле «Час паразумецца» выказвае свае погляды на ўзаемаадносіны рускага і беларускага народаў у сярэднявечча, — быццам працягвае ліст віцяблянкі Л. Хмяльніцкай кандыдат гістарычных навук з Мінска **А. Краўцэвіч**. — Ён зыходзіць з пастулата аб'ектыўнай неабходнасці «аб'яднання рускіх зямель пасля заняпаду Кіеўскай Русі вакол адзінага цэнтра» і высоўвае тэзу аб саперніцтве ў прэтэнзіях на ролю такога цэнтра Літоўскага і Маскоўскага княстваў. Перамагла

## АДКАЗ

### доктару філасофскіх навук, прафесару В. Акулаву на яго адкрыты ліст

Ласкавы калега! Адразу не адказаў на Ваш «адкрыты ліст» («ЛіМ», № 45 за 1989 г.), напісаны ў сувязі з маім артыкулам «Прынцыпы» і факты» («ЛіМ», № 39), бо быў заняты іншымі справамі.

Нагадваю, што ў маім артыкуле быў зроблены гістарыяграфічны агляд вытокаў дагматычнага падыходу да гісторыі Беларусі феадальнага перыяду, пачынаючы з дваранскай гістарыяграфіі другой паловы XIX ст. Мне цяжка Вам адказваць, бо галоўнага зместу майго артыкула Вы не кранаецеся. Але адказаць трэба.

Лічу, што па форме Ваш ліст, ласкавы калега, напісаны да незнаёмага чалавека, не зусім карэктны (фамільярны тон, здзеклівая іронія і намёкі). Але гэта Ваша справа. Больш мяне здзівіла перакручванне фактаў і прыпісванне мне таго, чаго я не пісаў.

Я бачу, што Вы пазнаёміліся з працамі рускага манархічнага гісторыка М. О. Каяловіча, прафесара Пецярбургскай духоўнай акадэміі (дарэчы, беларускага паходжання, але продка беларускага нацыянальнага нігілізму), які з'яўляецца для Вас вялікім аўтарытэтам у галіне гісторыі Беларусі. Гэта справа Вашага асабістага густу і поглядаў. Але трэба было б працягнуць знаёмства з беларускай гістарыяграфіяй (і рускай дваранскай і буржуазнай) і паглядзець, якія ягоныя ідэі былі запазычаны і савецкімі гісторыкамі (перш за ўсё В. К. Шчарбаковым), пра што я пісаў у сваім артыкуле. Дарэчы, раю Вам пачытаць В. К. Шчарбакова «Класавая барацьба і гістарычная навука на Беларусі» (Менск, 1934), у якой якраз і ёсць перакручванне і інтэрпрэтацыя фактаў, прыпісванне тагачасным беларускім гісторыкам розных памылак і абвінавачванне іх у смяротных грахах. Так, напрыклад, у гэтай кнізе першы рэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта У. І. Пічэта, які ўжо праз год пасля прыезду з Масквы на Беларусь чытаў курс лекцый на беларускай мове, як і астатнія рускія прафесары, быў тройчы абвінавачаны: па-першае, што ён сам пан і сын пана, па-другое, што ён лідэр беларускіх нацыяналістаў у беларускай гістарычнай навуцы, па-трэцяе, што ён адначасова лідэр рускіх вялікадзяржаўных шавіністаў сярод гісторыкаў Беларусі. У такім жа стылі былі напісаны абвінавачванні іншых беларускіх гісторыкаў, што з'явілася падставай для рэпрэсій супраць іх. Некаторыя з іх былі расстраляны. Праўда, і сам аўтар потым трапіў у гэты кругаварот, дарма што напісаў гэтую кнігу. Кніга вельмі павучальная і яшчэ чакае свайго даследчыка. Хачу нагадаць, што перад Вялікай Айчыннай вайной у Мінску з вучоных гісторыкаў засталіся толькі два акадэмікі і дзесяць кандыдатаў, уключаючы тых, хто абараніў дысертацыі пасля 1938 года.

Цяпер хачу сказаць Вам пра творы К. Маркса і Ф. Энгельса ў дачыненні да гісторыі Беларусі. Дзе Вы ў маім артыкуле знайшлі, што быццам бы я бачу асноўную прычыну нядобрага становішча ў беларускай гістарычнай навуцы ў тым, што шэраг твораў К. Маркса і Ф. Энгельса замоўчваецца большасцю гісторыкаў? Але ж Вы іх цытуеце ў тых месцах, якія наогул не маюць аніякага дачынення да сюжэта майго артыкула, г. зн. да гісторыі Беларусі. Дарэчы, разглядаючы гэтыя цытаты, Вы нават не лічыцеся з прынцыпам гістарызму, некарэктна параўноўваючы іх з выказваннямі В. М. Молатава ў 1939 г. ці з аншлюсам 1938 г. Вядома, К. Маркс і Ф. Энгельс у свой час выступалі за аб'яднанне Герма-

*Праблемы, меркаванні*

# КАМПАЗІТАРЫ І... «КАМП'ЮТЭРНАЕ МЫСЛЕННЕ»

Дзесьці ў туманнай далечыні будучага—мэта і сэнс нашай цывілізацыі. Дзесьці там—ахутаныя туманам здагадкі і мары пра стан беларускай нацыі і яе культуры. Якія палітычныя, эстэтычныя, гістарычна - сацыяльныя, ідэалагічныя, сацыяльна-псіхалагічныя крытэрыі павінны вызначаць самасць, існасць, самабытнасць беларускага народа?

Гэтае складанае філасофскае пытанне, зразумела, немагчыма абмеркаваць у артыкуле. Але ўсё ж, думаецца, два «матэрыяльныя» пункты, вызначальныя для нашага нацыянальнага духу, магу назваць: мова і... электроніка. Беларуская мова як спецыфічна арганізаваная знакавая, семантычная «матэрыя» менавіта тутэйшай, нашае зямлі і грамадства і электроніка як уласна «матэрыя-сістэма» новых магчымасцей для арганізацыі той самай першай — знакавай, семантычнай — мовы і для фарміравання, на яе падставе, новых паняццяў, развіцця магчымасцей нацыянальнага інтэлекту. Электроніка як матэрыяльнае забеспячэнне нацыянальнай самабытнасці.

Калі мы сёння карыстаемся прадукцыяй электроннай прамысловасці, што прапануюць мінскія магазіны «Электроніка», «Радыётэхніка», і калі гартаем замежныя часопісы ці на свае вочы бачым тамтэйшыя відэамагнітафоны, дык ад супастаўленняў - параўнанняў нам не робіцца весялей. Акрамя думкі пра тое, «як мы адсталі», напрошваецца яшчэ адна выснова: усё на гэтай грэшнай зямлі паўтараецца. Успамінаецца і біблейскае «слова»—тое, якое было спачатку. Якое існавала за тысячы гадоў да марксісцкага «матэрыя вызначае...»І высвятляецца ў свядомасці простая і амаль банальная выснова пра кругазварот цывілізацыі, пра біблейскае «спачатку было слова», пра тое, што ўсё ўжо некалі было з намі. Толькі, зразумела, на іншым вітку гістарычнага і культурнага руху. І быццам зноўку мы, беларусы, ачунялі і, грэшныя, засаромеліся той уласнай велічы, якую мелі і мо амаль што страцілі беззваротна.

Так, мы, людзі, спачатку думалі-казалі, а потым крочылі і будавалі сваю культурную гісторыю. І, бадай, усё, што маем *і, тым больш,* чаго не маем мы, беларусы, у нашым жыцці, залежыць проста ад таго, як мы думалі-казалі... Якімі ж сёння павінны быць нашы думкі ды словы, каб вызначыць творчыя магчымасці народа як нацыі? Не буду нагадваць беларускіх славутых гістарычных дзеячаў-«думальшчыкаў». Гэта ж і наша сёння яшчэ раз сцвярджае, што ўсё ж спачатку было і ёсць і, пэўна, будзе тое магічнае «слова» — як пункт адліку, як штуршок новага руху па шляху цывілізацыі. Наша беларуская інтэлігенцыя і сказала, і выказвае гэтае слова-накірунак, слова-роздум, дзе асноўнае—асэнсаванне унікальнасці нацыі і яе гістарычна-творчых патэнцый.

У гэтым аспекце сістэма суадносін «беларуская культура і НТР» ці не цэнтральная праблема пасля моўна-паняційнай і нацыянальна-культурнай. Чаму праблема? Зразумела, што па-за межамі навукова-тэхнічных удасканаленняў мы не можам крочыць наперад. Аднак справа не толькі ў гэтым. Трэба тут яшчэ сказаць чарговае слова пра працэсары і камп'ютэры, пра вялікія і малыя сістэмы ЭВМ і кібернетычныя паняцці, алгарытм, дэдукцыю-індукцыю ў дачыненні да нацыянальнае культуры. Пра гэта ж крычыць свет!

Словам, і нам трэба гаварыць *пра новыя тэхнічныя* і, адпаведна, псіхалагічныя ўмовы творчага працэсу—пра так званае «камп'ютэрнае мысленне».

Да яго мы ставімся даволі павярхоўна: маўляў, гэта дысплей, кнопкі і элементарныя навыкі іх націскання. Маўляў, да электронікі вельмі хутка прывыкаюць дзеці ў камп'ютэрных гульнях, у спецыяльных класах. Аднак жа дарослыя, тым больш людзі сталейшыя, са скрыпам і з цяжкасцямі далучаюцца да электроннай тэхнікі. А ў сферы культуры, мастацтва нашы зносіны з электронікай і ўвогуле на пячорным узроўні, калі мець на ўвазе, што свет, нават «трэція» краіны рашуча камп'ютэрызуюцца, што пісьменніцкая праца ідзе ўжо «праз дысплей», што электронная радыё- і відэатэхніка—элементарная дэталь хатняга камфорту.

Тады навуковец можа не вандраваць па архівах і бібліятэках свету, а ў сваім хатнім кабінеце націснуць адпаведныя кнопкі і на экране свайго хатняга дысплея-камп'ютэра атрымаць усю — падкрэсліваю, усю наяўную на гэты момант інфармацыю па тым ці іншым пытанні. А калі хоча мець дублікат, націскае яшчэ адну кнопку—і гатова: ксеракопія ў любой колькасці! Для мінчука і тым больш для гродзенца, гамяльчаніна і да т. п.—проста фантастыка...

І галоўнае, што ў сувязі з камп'ютэрызацыяй карэнным чынам і вельмі, ой, як вельмі хутка мяняецца свядомасць, павялічваецца колькасць псіхаэмацыянальных, уяўленчых сувязей у шэрым рэчыве тых, хто штодзень «націскае кнопкі». А тым самым зноў і зноў павялічваецца і без таго катастрафічная адлегласць ва ўзроўнях камп'ютэрызацыі нашых і «іхніх» культуры і жыцця, ва ўзроўнях і якасці мыслення ды фантазіі. Ужо не кажу пра звычайную хуткасць у творчым працэсе літаратара, публіцыста, журналіста, якую надае, напрыклад, такая камп'ютэрная працэдура, як друкаванне (250 — 300 знакаў у се-кун-ду!) тэксту з голасу аўтара! А стылістычнае рэдагаванне, а перадача сваёй літаратурнай прадукцыі выданням з дапамогай тэлефакса («тэлевізійнага факсіміле»): рамана, апавядання, карціны, пісьма, артыкула і да т. п.

На наш жаль, гэта не паўабстрактная, аб'ектыўна невядомая далячынь жыцця і цывілізацыі. Гэта тое, што ёсць у Тайландзе ды Сінгапуры, у Карэі ды Японіі... Не гаворачы пра Аб'яднаныя Арабскія Эміраты. Ёсць сёння! А ў сэрцы Еўропы, на Беларусі пра камп'ютэрныя магчымасці чулі хіба адзінкі літаратараў ды спецыялісты-электроншчыкі. Дарэчы, калі спатрэбілася дамовіцца з замежнымі фірмамі, арганізатарамі міжнароднага сімпозіуму і выстаўкі камп'ютэраў у Мінску, з дапамогай тэлефакса—звычайнага ўжо прыстасавання ўсіх вялікіх фірм—мы вымушаны былі сціпла «растлумачыць», што, маўляў, «тэлефакс наш часова сапсаваўся»... Сорамна...

Сёння ў свеце лічыцца, што наша краіна, якая бясконца адстала ў электроннай прамысловасці, яшчэ трымаецца на *нейкім узроўні розумам, ідэямі* нашых навукоўцаў. Лічыцца таксама, што нашы савецка-славянскія мазгі, нашы «алгарытмічныя здольнасці», магчымасці абстрактна-навуковай інтуіцыі маюць вялізны патэнцыял неардынарнасці. Можа, гэта і ёсць наш рэзерв і адзіная магчымасць адолець тое бяздонне, якое раздзяляе «нас» і «іх» у электроннай гонцы. Мы ж не можам, не хочам проста так узяць і пагадзіцца з тым усмешліва-ветлівым японцам-электроншчыкам, які на пытанне аднаго з савецкіх журналістаў пра тое, наколькі мы адсталі ў электроніцы і камп'ютэрызацыі, адказаў: «Назаўжды!» Не хо-чам, бо інакш нам давядзецца канстатаваць вечнае васальства, другараднасць, мо і новую, сучасную форму залежнасці, калі не сказаць мацней—рабства на «электронным» узроўні. Праўда, мы вымушаны прызнаць: 10—12 гадоў таму ЗША, Японія, ФРГ, Францыя, Вялікабрытанія і іншыя краіны ліхаманкава, навыперадкі кінуліся ўкладаць мільярды ў электроніку, у мікрапрацэсарную тэхналогію і вытворчасць. Вынікі гэтай гонкі мы сёння ведаем.

Думаю, пэўнай эмацыянальнай кампенсацыяй такога ўсведамлення не нашых поспехаў можа быць той факт, што электронная прамысловасць Беларусі—мацнейшая ў краіне. У многіх гуманітарыяў гэты факт можа выклікаць скептычную ўсмешку. Але менавіта ў Мінску намаганнямі супрацоўнікаў БелНДА «Вылічальная тэхніка» быў упершыню ў рэспубліцы і ў краіне праведзены міжнародны сімпозіум па праблемах развіцця электронікі і камп'ютэрызацыі жыцця. І менавіта *на ім з трывогай канстатаваўся* факт зніжэння попыту ў нашай рэспубліцы і ў краіне на персанальныя камп'ютэры, пасля леташняга буму. Проста мы, як аказалася, думкамі, мысленнем, разваротлівасцю не паспяваем за тэмпамі развіцця тэхналогій, прамысловасці, якія прадугледжваюць хуткасці і тэмпы мікрапрацэсараў, бег сігналаў-«думак» электронікі. Мы як тое старажытнае племя, якое зачаравана глядзіць на агонь ды сякеру, лук са стрэламі і пакуль да канца не разумее іх пераваг і выгод. Мы пакуль не да канца зразумелі і асэнсавалі інтэлектуальныя магчымасці, што гэтак неверагодна ўзмацняюцца электронікай.

Калі спусціцца на больш практычную прыступку ва ўзаемадачыненнях *з электронікай,* дык трэба, думаецца, згадаць сучасныя тэндэнцыі, плыні ў літаратуры і публіцыстыцы. Іх характарызуе дакументальнасць, факталагічнасць, гістарычна-псіхалагічная і сацыялагічная дакладнасць, што грунтуюцца на агромністай масе фактаў, звестак, успамінаў, дакументаў і г. д. І гэты вал штодзень павялічваецца. І не паступова, а менавіта з эфектам «дзевятага валу»—ва ўмовах галоснасці. Дык ці можа натуральны стан чалавечай памяці адолець гэты вал? Каб хоць руцінна перапрацаваць—асэнсаваць эстэтычна, гістарычна, па-мастакоўску? Рытарычныя пытанні.

Што ж дае, што можа даць наша рэспубліканская тэхнічная рэчаіснасць? Пакуль стан забеспячэння нашай інтэлектуальнай працы, я ўжо казаў, на пячорным узроўні. Дзе ўжо тут да камп'ютэраў, калі нацыянальны скарб—фонды рарытэтаў рэспубліканскай бібліятэкі імя Леніна—заліваюцца вадой, пажыраюцца грыбком. Нішчацца. Быццам наўмысна. Я свядома не паставіў да слова «бібліятэка» вызначэнне «дзяржаўная», бо дзяржаўныя ўстановы адцураліся ад народнага скарбу, не асэнсавалі трагедыю кніжнага фонду і не зрабілі нават мінімуму, каб проста захаваць нацыянальную культуру, адлюстраваную ў фаліянтах XV—XIX стагоддзяў. Дзе ўжо тут да ўсведамлення неабходнасці камп'ютэрызацыі, распаўсюджвання ў народзе нацыянальна-інтэлектуальных скарбаў...

А, між тым, стварэнне першай ступені сістэмнага камп'ютэрнага забеспячэння было б і першым крокам па шляху развіцця новага, «камп'ютэрызаванага» мыслення. На мой погляд, сродкі для гэтага спатрэбяцца адносна невялікія, калі ўлічыць фінансавыя магчымасці не асобных літаратараў, кампазітараў, журналістаў, а творчыя саюзы, якія іх аб'ядноўваюць. Першая ступень ЭВМ-нага забеспячэння—гэта, зразумела, цэнтр электроннай памяці пры дзяржаўнай бібліятэцы (або ў ёй), для якой трэба новы будынак-гарадок з перспектывай развіцця фондаў на 50—100 гадоў. Разумею, гэта мара, якую Саўмін БССР можа здзейсніць у 1997 — 99 гадах. Але балюча параўноўваць маю рэспубліку, мой *дзесяцімільённы народ і, напрыклад,* Эстонію з насельніцтвам у 1,8 мільёна, дзе ў сучаснай бібліятэцы Тартускага універсітэта ёсць усё, пра што вяду гаворку. Ужо некалькі гадоў ёсць: асобныя кабінеты-келлі, дзе чытач-даследчык можа месяцамі працаваць у «хатніх умовах»; малыя залы, дзе прафесар можа праводзіць заняткі, семінары з групай сваіх студэнтаў; агульныя чытальныя залы з «псіхалагічнымі» выгарадкамі: разам з усімі, але ж і як бы адзін; цэнтр ЭВМ, у памяць якой закладзены ўсе дадзеныя бібліятэкі. І паўсюдна ў пакоях бібліятэкі — персанальныя камп'ютэры.

Пакуль персанальныя камп'ютэры каштуюць ад 30 да 80—90 тысяч рублёў, так што набыць іх могуць толькі ўстановы ці суполкі: Саюз пісьменнікаў, Саюз кампазітараў, Саюз журналістаў, Дзяржтэлерадыё БССР. І, канечне, галоўная бібліятэка, якой на сённяшні дзень у рэспубліцы, па сутнасці, амаль няма. У пакоях гэтых установ магло б стаяць некалькі такіх апаратаў з дысплеямі, на якіх у пэўны час працавалі б пісьменнікі, публіцысты, журналісты, кампазітары. Справа толькі ў тым, ці змогуць і, галоўнае, ці захочуць яны працаваць з камп'ютэрамі. Бо якія ж нашы псіхіка, звычкі, свядомасць кансерватыўныя, лянівыя, абыякавыя, часам, да зрухаў у рэчаіснасці і НТР-аўскім асяродку! Прыклад: у новым будынку Дзяржтэлерадыё БССР устаноўлена ЭВМ і наладжана сістэма «ІнфаТАСС»—выдача на дысплей і друкаванне (маланкавае — 250—300 знакаў у секунду) свежай інфармацыі ТАСС па розных напрамках жыцця. Дык вось, карыстаюцца ёю пакуль толькі адзінкі ды й то амаль пад прымусам.

# ...НЕ ДЗЕЛЯ ЎЗНАГАРОД

**Успамін пра мастака Антона ВАЛАТОВІЧА**

**І вось настае момант, калі пасля прозвішча мастака стаяць дзве даты, падзеленыя кароткай рыскай. І мастак ужо не належыць самому сабе. Усё, што ён паспеў здзейсніць у жыцці, яго творы адкрываюцца зноўку, з вычарпальнай глыбінёй, узвышана і чыста.**

**І так, дзве даты: 1940—1971. Гэта гады жыцця Антона Валатовіча. Цяпер яму споўнілася б 50. Яго кароткі жыццёвы шлях не быў гладкім, і лёс не заўсёды быў да яго прыхільны, да таго ж пастаянна даваў аб сабе знаць боль у сэрцы... А ўсё пачыналася, як і ў многіх яго равеснікаў: басаногае дзяцінства на Случчыне, школа, Мінскае мастацкае вучылішча, тэатральна-мастацкі інстытут...**

**І цудоўная дыпломная карціна — «Провады навабранца», якая зрабіла аўтара шырока вядомым.**

**Антон быў вельмі добразычлівы да людзей, чуйны да прыроды, любіў паэзію, асабліва М. Цвятаеву, С. Ясеніна і У. Маякоўскага, любіў музыку, мог гадзінамі слухаць Другі канцэрт Рахманінава, вялікіх італьянцаў Энрыка Каруза і Марыа Ланца, а галоўнае, быў апантаны творчасцю.**

**Валатовіч не чакаў узнагарод, не праяўляў ніякіх намаганняў ці запалу для таго, каб вылучыцца, прадстаць не тым, чым быў на самай справе. Ён заўсёды заставаўся самім сабой, хоць і не быў пазбаўлены своеасаблівага аптымізму, быў чэсны, валодаў высокім дарам таварыскасці. Пра гэты яго дар і сёння цёпла ўспамінаюць яго блізкія сябры-таварышы Аляксандр і Людміла Пуцейкі, Віктар Яўсееў, Вячаслаў Пазняк, Веніямін Мігаль, Мікалай Машкоў, Ірына Волкава, Уладзімір Пашчасцеў...**

***Мне таксама даволі часта даводзілася сустракацца з Антонам*** **(мы былі з ім аднагодкі)—то за куфлем піва ў кампаніі аднадумцаў, то ў майстэрнях Леаніда Шчамялёва і Аляксандра Кішчанкі, якія знаходзіліся тады па суседству, на Ленінскім праспекце.**

**Пасля заканчэння інстытута Антон браўся за работы самага рознага плана і зместу — ад дзівосна пластычных натурных пейзажаў Браслаўшчыны і Мазыра, ад нацюрмортаў і прыгожых малюнкаў да манументальна-дэкаратыўных рэчаў.**

**І ў кожнай рабоце ён стараўся не паўтарацца, нешта шукаў, не астывала яго гарачая думка, палала душа, ён засмучаўся ад сваіх памылак нават тады, калі яго палатно атрымлівала адабрэнне таварышаў, ён радаваўся поспехам іншых, сціпла замоўчваючы аб сваіх, ён заўсёды быў у гушчыні жыцця, заўсёды можна было разлічваць на сяброўскае плячо Антона.**

**У жывапісе ён нязменна надаваў пільную ўвагу каларыту. У яго дыпломе прысутнічаў асаблівы эмацыянальны падтэкст, які з першага павярхоўнага погляду не чытаўся.**

**Аднойчы ён запрасіў мяне ў сваю вучэбную майстэрню. Мы абмяняліся ўражаннямі, пагаварылі аб тым, аб сім, а на мальберце стаяла закрытая прасцінай карціна. Я разумеў, што Антон так спешна паклікаў мяне, каб паказаць сваю работу, потым адкрыў карціну і нецярпліва спытаў: «Ну, а *што ты скажаш аб гэтым?* — і ўстанавіў мальберт так, каб святло падала лепш. — Давай, кажы, толькі падрабязна і доказна!» Яго гарачыя зеленаватыя вочы ўспыхвалі, калі мне ўдавалася правільна растлумачыць сэнс карціны, адкрыць у ёй тое патаемнае, самабытнае, што ўклаў у яе малады жывапісец.**

**Валатовіч расказваў мне, што ў інстытуце яго вучаць выконваць праграму. А тварыць, *маўляў, будзеце пасля.* «Дзіўная рэч, — абураўся ён. — Светапогляд жа — справа тонкая, яго нельга адкласці на будучае. Чамусьці — гэтага не разумеюць, у нас убіваюць рамесніцкую адукава-**

Лянота, кансерватыўнасць і ўсведамленне той «сусветнай» супакоенасці, упэўненасці ў сваім прафесійным і сацыяльным стане, калі, маўляў, ніхто не падпірае, ніхто не пагражае беспрацоўем з-за таго, што ты не імкнешся да ўдасканальвання свядомасці і прафесіяналізму. А сённяшні прафесіяналізм — камп'ютэрызацыя, у тым ліку і нашай справы, літаратурнай, публіцыстычнай.

Цэлы пласт сучаснай культуры, дзе ўсё больш выкарыстоўваецца электроніка, больш таго, існаванне якога без электронікі сёння немагчыма,—гэта поп-музыка, дакладней, экранізацыя яе: кліпы. Тут, вядома, мае быць асобная гаворка на тэмы «тэлебачанне і поп-музыка», «электроніка і дзейнасць рок-гуртоў — самадзейных, напаўпрафесійных і так званых прафесійных». Можа, таму такія чуйныя тыя гурты да камп'ютэрызацыі, бо шукаюць у ёй не столькі новых гукаспалучэнняў і тэмбраў, як прыкрыцця для сваёй музыканцкай непрафесійнасці? Але, паўтару, гэта тэма для асобнай гаворкі.

А вось чаму абыякавыя дыпламаваныя кампазітары да асэнсавання электронікі, камп'ютэрызацыі як мастакай з'явы — гэта, відаць, тлумачыцца не толькі хібамі музычна-прафесійнай адукацыі. Не было пра гэта гаворкі і на нядаўнім з'ездзе кампазітараў Беларусі, які ўвогуле ўразіў сваёй неарганізаванасцю і нейкай кансерватыўнасцю атмасферы. Дзе ўжо тут да такой абстрактна-складанай з'явы, як камп'ютэрызацыя!

ТАК, ЧЫТАЧ: на жаль, сістэма кампазітарскай і музыказнаўчай адукацыі не толькі ў рэспубліцы—у краіне не прадугледжвае нават візуальнага знаёмства з камп'ютэрам. Гэтым музыканты займаюцца (калі ўвогуле займаюцца!) самадзейна - саматужна. Такіх адзінкі. Сярод іх на Беларусі мне вядомыя імёны маладых С. Бельцюкова, А. Хадоскі і ўжо больш сталага В. Раінчыка. (Даруйце, калі не назваў кагосьці яшчэ, хто зацікавіўся мастацкімі магчымасцямі электронікі). Але ж яшчэ дзесяцігоддзе таму колішні мінскі музыкант, потым маскоўскі кампазітар і арганіст А. Янчанка паказаў прыклад: у ягонай сімфоніі «Андрэй Рублёў», прэм'ера якой адбылася ў канцы 70-х гадоў у Беларускай дзяржаўнай філармоніі, выкарыстаны быў сінтэзатар. Колькі магчымасцей, колькі мастацка-псіхалагічных сюрпрызаў дало гэтае выкарыстанне ўжо тады! Ды нашы кампазітары быццам не звярнулі на яго ўвагу. Не адчулі набліжэння новай эры ў музыцы...

Затое яе, камп'ютэрную эру, пачулі непрафесіяналы—спачатку загнаныя ў падполле, потым легалізаваныя рок-музыканты. І сёння яны — «дзеці», якія ў эйфарыі ад усведамлення магчымасцей музычна і рытмічна арганізаванай «гукаматэрыі»,—робяць першыя крокі і дэманструюць глыбіні і прасторы электроннай улады над гукам. Дэманструюць захапляльны далягляд новых мастацкіх, сацыяльна-псіхалагічных сродкаў, якія называюцца: электроніка! Праўда, на жаль, дэманструюць часцей разбуральную, чым стваральную моц гэтых новых сродкаў.

Тым часам кампазітары-прафесіяналы, «акадэмісты», сімфаністы, балетна - опернікі, «аратарыйшчыкі і санатнікі» можа, міжволі, праз сваю ненавучанасць карыстацца здабыткамі электронікі, а хутчэй праз тую самую «сусветную» ляноту цела і духу, апынуліся на перыферыі музычна-мастацкай думкі, бурлівых перабудоўчых працэсаў, быццам жывучы пад добра знаёмым лозунгам-устаноўкай: «пачакаем, паглядзім, чым скончыцца, пераб'ёмся».

Але яшчэ 300 гадоў таму музыку, «мусікію» лічылі «другой філасофіяй і граматыкай» (дзяк Срэценскага сабора ў Маскоўскім Крамлі Іакім Коранеў, XVII ст.; наш Мікалай Дзілецкі ў «Граматыцы» на беларускай мове, 1677 г.). Дык ці маем мы творы «другой філасофіі» сёння, якія адлюстроўвалі б, абагульнялі, асэнсоўвалі і, галоўнае, накіроўвалі б наш грамадскі дух наперад, у рацыянальнае і самабытнае нацыянальнае «заўтра», у тую самую загадкавую і прыцягальную электронную далячынь? Ці ёсць тыя сімфоніі-раманы, тая музычная форма-мова, якія б дапамагалі нам музычна, па-мастацку, эстэтычна скіроўваць нашы практычныя крокі пад уплывам электронна-мастацкага музычнага слова? Зноў—рытарычныя пытанні.

Упэўнены, што зварот да электронікі, камп'ютэраў (на авалодванне якімі, зразумела, неабходны паўгода, год) радыкальна зменіць адносіны да «сур'ёзнай» музыкі з боку шырокай публікі, якая ўжо даўно падрыхтавана да «электроннай формы адзення» музычнага мастацтва. Упэўнены таксама, што электроніка для музыкі аналагічная стварэнню ў свой час лютняў, віёл, удасканаленню скрыпкі, канструяванню клавесіна, раяля, аргана, нараджэнню аркестра, будаванню канцэртных залаў паводле законаў акустыкі.

ЭЛЕКТРОНІКА—сучасны інструмент, форма, сродкі, без ужывання якіх, пэўна, развіццё і ўсяго музычнага мастацтва, і нашай свядомасці немагчыма. Пагарда да яе ў справе развіцця культуры беларускага народа ставіць новыя бар'еры на шляху інтэлектуальнага і духоўнага развіцця нацыі. Камп'ютэры — гэта тыя самыя «сродкі працы і вытворчасці», якія, паводле марксізму, узбройваюць нашы рукі, думкі, пачуцці — інтэлект і якія павінны «сёння і зараз» хоць крыху прасвятліць туманную далячынь і акрэсліць пакуль досыць абстрактнае наканаванне беларускай культуры як роўнай сярод роўных еўрапейскай і сусветнай цывілізаванасці. Бо не павінны ж мы спазніцца «назаўжды»! Таму і павінны сказаць сваё чарговае Слова.

**Данат ЯКАНЮК,**
**кандыдат**
**філасофскіх навук.**

**насць». Я пярэчыў, гаварыў, што вось яго дыплом якраз і ёсць менавіта яго, а не педагога, светапогляд, яго ўласны голас, думка, пачуццё.**

**У адказ ён штосьці бурчэў, круціў сваёй раскошнай чупрынай. «Я думаю, чым глыбей мастак, тым больш складана ўвайсці ў яго свет, тым больш цяжкія гэтыя дзверы...» — неяк сумна прамовіў ён.**

**І тады я расказаў Антону прытчу аб тым, як аднаму мастаку, які лічыўся майстрам выяўлення колераў, заказалі напісаць ільва. Спецыяліст па колеры падумаў, памаўчаў, а потым сказаў: «Я ахвотна напішу вам ільва, толькі ён у мяне як дзве кроплі вады будзе падобны на чайную ружу — вы ўжо мяне не асуджайце строга».**

**Антон ад душы рассмяяўся і сказаў, што гэта менавіта так, што сапраўдны майстар тым і розніцца з рамеснікам, што яму важна заўсёды заставацца самім сабой.**

**Такім і застаўся Антон у сваёй карціне «Провады навабранца» — самім сабой, не падобным ні на кога, шчырым і вельмі чалавечным. І сёння, праз гады, гэта карціна з моцна пабудаванай прасторай, з выразна абазначанымі, прыгожа выпісанымі прадметамі нацюрморта, з дзіўна застылымі чалавечымі фігуркамі-вобразамі нясе ў сабе дзівосна своеасаблівую паэзію, глыбока схаваную духоўнасць, прытоеную эмацыянальнасць. І калі мы прыходзім у інстытуцкі музей і глядзім на гэтае палатно скрозь час, то ўсё, што адбываецца ў ім, як бы высвятляецца, замірае, адрываецца ад жыццёвых нягод, набывае дакладнасць і завяршанасць сімвала.**

**Многае можна сказаць аб «Провадах» — карціне адзінай і непаўторнай. Заўсёды яна будзе прыцягваць да сябе гледача, які ўпершыню жывапісу...**

**Барыс КРЭПАК.**

*Тэлебачанне*

# «Брава, Марыя!»

Не лепшы час абралі для гэтай перадачы складальнікі праграмы: далёка ж не кожны ўключае тэлевізар у будзень а пятай гадзіне... І ўсё ж не засталася без глядацкай увагі новая работа музычнай рэдакцыі Беларускага тэлебачання, паказаная на ўсесаюзным экране. Прыхільнікі опернага мастацтва яе абмяркоўваюць, здаецца, і дасюль, як абмяркоўваюць усё, што звязана з імем сусветна вядомай «зоркі», або, калі хочаце прасцей, па-зямному, — заслужанай артысткі БССР Марыі Гулегінай.

Памятаеце, акурат перад новым годам была ў «ЛіМе» гутарка з ёю? Дык неўзабаве адчулася, якую спажыву для абгаварэння і спрэчак рэдакцыя падкінула ў асяроддзе музыкантаў, тэатралаў. Рэхам далятала да нас тое абгаварэнне:

— Яна крытыкуе тэатр!

— Але яна, як мо ніхто іншы, мае на тое права...

— Яна крытыкуе вакалістаў-педагогаў!

— Прытым яна мае рацыю...

— Ну, канечне: на яе месцы лёгка ўсіх судзіць...

— Сваім месцам яна абавязана толькі сабе — таленту, працы.

Цяпер яшчэ і перадача, дзе зноў — далікатныя, але адкрытыя папрокі «зоркі» на адрас Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР, у якім яна працуе.

Але з музычнай перадачай спрачацца цяжэй, чым з «голымі» словамі ў газеце. У перадачы першы ж кадр — візітная картка спявачкі, арыя Леаноры з вердзіеўскай «Сілы лёсу». Відэазапіс з Лонданскім аркестрам. Цітры «не па-наскаму». Авацыі «тамтэйшай» публікі. І толькі потым, як пацверджаныя, заслужаныя, адпаведныя пачутаму словы на ўвесь кадр: «Брава, Марыя!» Вось вам натуральная, сама сабою знойдзеная назва для ўсяго тэлеапавядання.

А, можа, дакладней было б сказаць — тэлеманалога? Бо пра М. Гулегіну расказвае яна сама. Расказвае пра сваё дзяцінства — «гады брыдкага качаняці», пра любімых педагогаў, пра «метамарфозу Папялушкі» — перамогу на глінкаўскім конкурсе, пра творчыя сумненні і першую сустрэчу з Ла Скала, пра італьянскіх партнёраў і працу з маэстра Караянам...

Усё гэта знята амаль нерухомай камерай, рэжысёр не штукарыць, шукаючы эфектных ракурсаў. Ды і навошта? Глядзіце, маўляў, на «зорку» пры дзённым святле, ды слухайце. І артыстка не пазіруе перад аб'ектывам. Перабірае раскінутыя на стале фатаграфіі, праграмкі, нешта згадвае, звяртаючыся да схаванага за кадрам субяседніка. Мы бачым яе спакойны, малады і прывабны твар, упэўнены і адкрыты позірк, адчуваем натуру моцную, цэласную, незалежную. Характар!

Сапраўднае багацце перадачы — замежныя відэаздымкі М. Гулегінай, сцэны са спектакляў «Баль-маскарад» (Амелію яна спявала ці не ў пяці краінах свету). «Тоска», «Двое Фоскары».

Своеасаблівы зрокавы кантрапункт адцяняе гучанне арыі Вані з «Івана Сусаніна»: засяроджаны, задуменны твар артысткі, якая блукае па бруку вузкіх вулак Траецкага прадмесця; галлё старых дрэў, праз якое свіціцца, пазалачоны сонцам, праваслаўны храм — сімвал веры чалавечай і духоўнага апірышча. Чаму раптам гэтая арыя? Аказваецца, М. Гулегіна пачынала вучыцца вакалу як мецца-сапрана, але пасля кансультацый розных спецыялістаў «перабудавалася» на сапрана. Аднак дыяпазон голасу ды ўпэўненасць у сваіх мажлівасцях дазваляюць спявачцы трактаваць і «контральтовага» Ваню, і — які кантраст! — партыю Віялеты (так, ёсць у перадачы і арыя з «Травіяты», праўда, знятая на стылізаваным студыйным фоне).

Марыя Гулегіна вельмі шчыра і хораша гаворыць пра Мінск, пра сваю працу ў кансерваторыі, пра сям'ю — і стваральнікі перадачы тым часам тактоўна знаёмяць нас з усім дружным і неспакойным сямействам артысткі (глядач жа хоча ведаць пра «зорак» усё!). Вось яны выправіліся на праходку: гераіня распавяду, яе муж, дачка і — гарэзлівыя разнамасныя пудзелі, якія маюць мянушкі оперных персанажаў...

Неўпрыкмет мінае час ля экрана. Яшчэ хутчэй праплываюць заключныя цітры перадачы, але першыя прозвішчы занатаваць удаецца: Л. Макаранка, А. Дыбча, В. Булдык, Ф. Лебедзь. Гэта рэдактар, рэжысёр, аператар і мастак — аўтары перадачы «Брава, Марыя!», якую варта паказаць і па рэспубліканскай праграме. Бо далёка не ўсёй нашай культурнай грамадзе выпала паглядзець-паслухаць яе па Цэнтральным тэлебачанні.

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

# Шчодрасць

Дамы для архітэктара — як дзеці: жывыя, са сваім характарам і непаўторнай душой. У архітэктара Станіслава Федчанкі «дзяцей» у Мінску шмат, яны «жывуць» на Партызанскім праспекце і ў Вайсковым завулку, на вуліцы Галадзеда. Вы запытаеце: «Прыгожыя будынкі?» Адказаць няпроста, але трэба зразумець, што для кожнага бацькі свае дзеці самыя прыгожыя.

Ён быў адным з аўтараў калектыўнага праекта прыбудовы да Дома ўрада па вуліцы Савецкай і гасцініцы «Планета», пад яго кіраўніцтвам аўтарскі калектыў распрацаваў забудову мікрараёна на рагу вуліц В. Харужай і Куйбышава.

Каля трыццаці гадоў аддаў Станіслаў Іванавіч любімай рабоце. Восем гадоў працаваў у інстытуце «Мінскпраект», дзе прайшоў шлях ад кіраўніка групы да галоўнага архітэктара праектаў; трынаццаць гадоў — у інстытуце «Белдзяржпраект» на адказнай пасадзе кіраўніка архітэктурна - канструктарскай майстэрні. Калектыў інстытута ў асноўным распрацоўваў праекты для сістэмы аховы здароўя: уралагічнага корпуса 4-й клінічнай бальніцы ў Мінску, шматпрофільных бальніц для Брэста, Віцебска і горада Лангепаса Цюменскай вобласці.

Цяпер член праўлення Саюза архітэктараў БССР Станіслаў Федчанка працуе галоўным архітэктарам праектаў, займаецца распрацоўкай комплексу «Цэнтр здароўя», што будзе створаны ў парку Чэлюскінцаў на базе рэспубліканскага водна-спартыўнага камбіната.

Вялікі вопыт, творчая фантазія, вечны пошук, працаздольнасць і настойлівасць — вось складаемыя поспеху архітэктара.

Але ў Станіслава Іванавіча ёсць і іншыя сферы мастацтва, у якіх ён таксама зусім не дылетант. Маю на ўвазе выяўленчае мастацтва, музыку і літаратуру.

Маляваннем ён захапіўся яшчэ ў школе. Пісаў пейзажы, партрэты, рабіў копіі карцін вядомых мастакоў. З гадамі захапленне жывапісам не прайшло: ён і сёння з захапленнем піша алеем, займаецца акварэллю і пастэллю, прытым пастэллю — найперш.

— Больш за ўсё мяне прываблівае ў пейзажах настраёвасць, — гаворыць С. Федчанка. — Люблю маляваць неба. Яно прысутнічае ў большасці маіх карцін: амаль ва ўсіх іх ёсць казачныя, амаль фантастычныя аблокі. Малюю прыроду, гарадскі пейзаж, зрэдку — партрэт.

А музыку пачаў пісаць у час вучобы ў інстытуце. Выконваў яе эстрадны аркестр, якім ён кіраваў. Песні яго гучалі ў спартыўна-музычнай перадачы нашага тэлебачання, сталі пераможцамі конкурсу, які праводзіў Дзяржаўны камітэт БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні. Лірычныя песні і рамансы Станіслава Іванавіча яшчэ чакаюць свайго слухача.

Тады ж, пад час вучобы ў інстытуце, пачаў пісаць і вершы. Мо не проста вершы, а — песні, тэксты на свае мелодыі. Сам жа іх і спяваў. І цяпер піша лірыку, а яшчэ—сатырычныя вершы, байкі, эпіграмы, гумарэскі, публікуе іх у перыядычным друку.



Рознабаковыя творчыя захапленні ўзбагачаюць Станіслава Іванавіча, робяць больш напоўненым яго жыццё. Адзін від творчасці гарманічна дапаўняецца другім.

Рады, што я — сярод яго знаёмцаў. Рады пазнаёміць з ім чытачоў «ЛіМа».

**Мікола ВЯРШЫНІН.**

## З пошты «Выбарчага клуба «ЛіМа»

# З'явіўся раптам дакумент

По праўдзе кажучы, падспудна ўзнікала думка пра занадта простае вылучэнне некаторых кандыдатаў у дэпутаты розных узроўняў. Не ва ўсіх, трэба сказаць, гладка праходзіла рэгістрацыя. Некаторым давялося вылучацца паўторна. Але такога прыёму, які выкарыстаў Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР, відаць, мала хто і чакаў. 25 студзеня 1990 года ім была прынята такая пастанова:

**«Президиум Верховного Совета Белорусской ССР постановляет:**

**Разъяснить, что окружные (территориальные) избирательные комиссии имеют право регистрировать кандидатов в народные депутаты Белорусской ССР, народные депутаты местных Советов народных депутатов Белорусской ССР, выдвинутых областными, районными, городскими, районными в городах органами Общества потребителей БССР, Белорусского экологического союза, Общества белорусского языка имени Франциска Скорины лишь в том случае, если указанные организации в установленном порядке образованы и зарегистрированы в соответствующем исполнительном комитете местного Совета народных депутатов до начала срока выдвижения кандидатов в народные депутаты, предусмотренного статьями 34 Закона Белорусской ССР о выборах в народные депутаты Белорусской ССР и 33 Закона Белорусской ССР о выборах в местные Советы народных депутатов Белорусской ССР».**

30 студзеня гэты дакумент трапіў у рэспубліканскую раду Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Раніцай таго ж дня аднаму з кандыдатаў у народныя дэпутаты БССР, вылучанаму радай ТБМ Савецкага раёна Мінска па Мірашнічэнкаўскай выбарчай акрузе № 33, па тэлефоне паведамілі: маўляў, ранейшае запрашэнне на 18 гадзін для рэгістрацыі адмяняецца ў сувязі з наяўнасцю пастановы, а канчаткова пытанне будзе вырашана ў чацвер. Разам з тым, у гэты ж дзень аўтар гэтых радкоў, як прадстаўнік Мінскай рады ТБМ, быў запрошаны ў гарадскую выбарчую камісію для праверкі пратакола пасяджэння па вылучэнні кандыдатаў, якое адбылося 17 студзеня. Пра пастанову ці нейкія іншыя перашкоды для рэгістрацыі кандыдатаў, вылучаных радай, гаворкі не было. Больш таго, некаторым кандыдатам ад радаў ТБМ па Мінску ў папярэднія дні абвясцілі аб рэгістрацыі і нават выдалі кандыдацкія пасведчанні.

Такім чынам, апарат на справе пачаў рэалізацыю прымаўкі «Адным махам семярых пабівахам». Цяжка нават падлічыць, колькі кандыдатаў ад ТБМ пазбаўлена магчымасці працягваць барацьбу за дэпутацкія мандаты. Звяртае на сябе ўвагу, што цытаваны вышэй «дакумент» датаваны 25 студзенем, а 23 студзеня было завершана вылучэнне. Адметна і тое, што не Законам аб выбарах, а пастановаю Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, выдадзенай пастфактум, цяпер кіруюцца ў сваёй дзейнасці акруговыя камісіі. У артыкуле 33 Закона Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб выбарах народных дэпутатаў Беларускай ССР чытаем: «Вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты па выбарчых акругах ад грамадскіх арганізацый ажыццяўляецца іх рэспубліканскімі, абласнымі, раённымі, гарадскімі, раённымі ў гарадах органамі». Між тым, кандыдат рады ТБМ Савецкага раёна Мінска, які ўсё ж пайшоў на рэгістрацыю ў вызначаны час, атрымаў пісьмовую адмову (пісьмовую—па яго настойлівым патрабаванні), якая абгрунтоўваецца вышэйназванай пастановай.

Варта падкрэсліць, што напісанае ў гэтым дакуменце пярэчыць сказанаму ў пункце 3 пастановы Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 28 верасня 1989 года (№ 2884-XI) «О регистрации Устава Общества белорусского языка имени Ф. Скорины»: «Рекомендовать исполнительным комитетам областей и Минскому городскому Совету народных депутатов оказывать содействие Обществу белорусского языка имени Ф. Скорины в организации и работе его региональных отделений», як і артыкулу 24 Статута ТБМ, зацверджанага той жа пастановай. Ні ў самой пастанове, ні ў статуце не ідзе гаворкі пра неабходнасць рэгістрацыі ў органах мясцовай улады.

Калі ў каго і цеплілася надзея на дэмакратычныя памкненні апаратчыкаў, калі каму і верылася яшчэ ў яго добранамерныя запэўніванні, то з выхадам пастановы ад 26 студзеня 1990 года такі чалавек напэўна зірне на нашу рэчаіснасць іншымі вачамі.

**Ігар ЧАРНЯЎСКІ,**
**археолаг, намеснік старшыні Мінскай гарадской рады ТБМ.**

# Пагулялі і годзе?..

30 студзеня я пазнаёміўся з пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 25 студзеня г. г. У ёй гаворыцца, што ад рэгіянальных аддзяленняў Таварыства беларускай мовы, Беларускага экалагічнага саюза і Таварыства спажыўцоў кандыдаты ў народныя дэпутаты могуць быць зарэгістраваны «лишь в том случае, если указанные организации в установленном порядке образованы и зарегистрированы в соответствующем исполнительном комитете... до начала срока выдвижения кандидатов». Адразу ўзнікла пытанне. Чаму пастанова прынята менавіта 25 студзеня, а не на месяц раней, «до начала срока выдвижения кандидатов»? Тым больш, што ў Законе БССР аб выбарах народных дэпутатаў у арт. 9 і 34 наогул не гаворыцца пра рэгістрацыю.

Сітуацыя ўскладняецца яшчэ і тым, што выправіць што-небудзь ужо немагчыма. Вылучэнне кандыдатаў закончылася, завяршаецца і іх рэгістрацыя.

Каб усвядоміць значэнне гэтага «кроку» ў напрамку стварэння прававой дзяржавы, трэба згадаць іншую пастанову Прэзідыума ВС БССР — ад 24 жніўня 1989 г. У ёй гаворыцца толькі аб рэкамендацыі абласным выканкомам Саветаў аказваць садзейнічанне ў арганізацыі і рабоце рэгіянальных аддзяленняў экалагічнага саюза. Прэзідыум зарэгістраваў Статут БЭС, які не прадугледжвае рэгістрацыі рэгіянальных аддзяленняў мясцовымі выканкомамі. Ды і што трэба рэгістраваць? Статут жа адзіны.

Нарэшце, чаму пастановай ад 25 студзеня абмяжоўваюцца правы толькі «некоторых» арганізацый? А ці зарэгістраваны ў мясцовых Саветах таварыствы аховы помнікаў, прыроды, раённыя арганізацыі Камуністычнай партыі, камсамола? А калі так, то што, цікава, яны падавалі для рэгістрацыі? Як вядома, дзве апошнія арганізацыі не маюць пакуль што ніякіх статутных дакументаў, акрамя ўсесаюзных.

Ці трэба тут гаварыць, што Беларускі экалагічны саюз не ставіў мэты захапіць уладу. Больш таго, з 9 існуючых аддзяленняў (а маглі ж і мы пад сурдзінку «напладзіць» у разоў 10 больш) толькі 5 вылучылі сваіх кандыдатаў — у поўнай, дарэчы, адпаведнасці з арт. 9 і 34 Закона аб выбарах. Калі б пастанова выйшла «до начала срока выдвижения кандидатов», безумоўна, яны пастараліся б прапанаваць сваіх прадстаўнікоў працоўным калектывам ці сходам па месцы жыхарства. А так атрымліваецца, што пасля выбарчых баталій (для прыкладу, гарадскі савет БЭС разглядаў 4 кандыдатуры) людзі проста падманутыя. Маўляў, пагулялі ў дэмакратыю і годзе!

Інваліды, ветэраны будуць мець гарантаванае прадстаўніцтва, і я вельмі рады за іх. А вось Беларускі экалагічны саюз, які імкнецца абараняць не карпаратыўныя інтарэсы, які імкнецца рашаць праблемы аднолькава важныя і для ветэранаў, і для моладзі, ды і для значнай часткі апарату, рызыкуе астацца без прадстаўнікоў у Вярхоўным Савеце, бо яму не даюць права нават удзельнічаць у выбарах!

Пастанова, лічу, з'яўляецца неразумнай яшчэ і таму, што яна зводзіць на нішто палажэнні передвыбарчай платформы ЦК КПБ, у якіх гаворыцца аб імкненні партыі да кансалідацыі ўсіх здаровых сіл, да канструктыўнага дыялога з усімі грамадскімі арганізацыямі. Яна толькі паглыбляе напружанасць паміж апаратам і дэмакратычнымі сіламі.

**Лявон ТАРАСЕНКА,**
**віцэ-прэзідэнт Беларускага экалагічнага саюза.**

**У час апошняй сесіі Вярхоўнага Савета БССР перад Домам урада ў Мінску з'явіліся пікеты. Іх удзельнікі — жыхары Нароўлі — патрабавалі неадкладнага вырашэння праблем, звязаных з ліквідацыяй вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.**

**На наступны дзень з прадстаўнікамі працоўных калектываў Нароўлі сустрэліся Старшыня Савета Міністраў рэспублікі М. Кавалёў, сакратар ЦК КПБ А. Камай, старшыня Белсаўпрофа У. Ганчарык, іншыя адказныя работнікі. У ходзе гарачай дыскусіі былі знойдзены адказы на многія спрэчныя пытанні.**

Фота зроблена 26 студзеня на плошчы імя Леніна нашым чытачом В. КАРМІЛКІНЫМ.

**Лідзія АРАБЕЙ**

# ДОЎГАЯ ДАРОГА ДА ДОМУ...

**Шляхамі Цёткі**

**С**ЦЕРАГУЦЬ ЧАЛАВЕКА ў жыцці выпадкі — шчаслівыя, нешчаслівыя, часам такія, што і лёс перакруцяць. Трапляліся і на маім вяку — усякія. Найболей, можа, нешчаслівыя. Але аднаму выпадку я ўдзячная.

Працуючы над кнігаю пра Цётку, я, каторы раз, вырашыла з'ездзіць на радзіму паэтэсы. Пакланіцца магіле, пагаманіць з землякамі, наведаць школы — у Шастаках, у Астрыне.

Блакнот мой тая паездка не напоўніла, узрушыла, хіба, як заўсягды, эмацыянальна — яшчэ раз дакранулася да зямлі, па якой ступалі ногі Цёткі, дыхнула тым паветрам, пачула мову яе землякоў. Апошні мой прыпынак быў у Астрынскай школе. Там шануюць памяць сваёй зямлячкі, ёсць пры школе музей Цёткі. Я пагаварыла з вучнямі, з настаўнікамі, наведала той музей і ўжо збіралася адыходзіць, як да мяне падышоў дырэктар школы і падаў канверт. Я ўзяла тое пісьмо — адрасаванае на Астрынскі сельсавет. Яно было з Польшчы, з горада Вроцлава, ад Станіслава Вызгі.

А трэба сказаць, што незадоўга перад гэтаю маёй паездкаю, на радзіме Цёткі, у Старым Двары, адзначаўся стогадовы юбілей паэтэсы. Прыехала шмат паэтаў, гаварыліся прамовы, выступалі артысты. Пра паэтычнае свята пісалі ў газетах, паказвалі па тэлебачанні. Рэзананс быў такі шырокі, што дакаціўся да Польшчы, дзе, аказваецца, жылі яшчэ сваякі Алаізы Пашкевіч. Станіслаў Вызга і быў адзін з такіх сваякоў (дзявочае прозвішча Цётчынай маці — Вызга).

У лісце, адрасаваным сельсавету, Станіслаў Вызга пісаў, што мае фатаграфію сям'і Пашкевічаў, іншыя здымкі, што мог бы прыехаць у Беларусь і прывезці іх.

У сельсавеце не ведалі, што рабіць з гэтым пісьмом, і перадалі дырэктару школы. Дырэктар школы таксама не ведаў, які ход даць гэтаму пісьму, а тут я падвярнулася. Ён мне тое пісьмо і аддаў. Вось той выпадак, якому я ўдзячная, хоць у выпадку тым ёсць, напэўна, і заканамернасць. Хіба не працую я вось ужо больш чым трыццаць гадоў над вывучэннем жыцця і творчасці Цёткі, не збіраю па крупіцы ўсё, што звязана з яе біяграфіяй? Хіба не затым паехала на Цётчыну радзіму, каб нешта новае дазнацца пра яе? Той ліст не мог, напэўна, мяне абмінуць.

Так завязалася мая перапіска са Станіславам Вызгам, а потым ён быў маім госцем, прывёз той здымак — сям'і Пашкевічаў — і ўспаміны пра Цётчыных сёстраў, братоў, запісаныя са слоў малодшай Цётчынай сястры Караліны Пашкевіч. Так-так, у 1976 годзе, да якога адносяцца тыя падзеі, Караліна Пашкевіч была яшчэ жывая і жыла ў Польшчы, у прыгарадзе Лодзі Аляксандраве, у вёсачцы Франін.

Пабываць у той вёсачцы, сустрэцца з Каралінаю Пашкевіч зрабілася маім вялікім жаданнем. Ды як можна было ўпусціць такі шанц — на свае вочы пабачыць родную Цётчыну сястру, пачуць ад яе аповяд пра сям'ю, пра Алаізу.

Але трапіць тым часам у Польшчу было не зусім проста, патрабавалася шмат фармальнасцяў, шмат часу займала афармленне дакументаў. І ўсё ж, недзе цераз год, прыехала я ў вёсачку Франін, пабачылася з пані Каралінай.

Цётчына сястра наймала невялікі пакойчык у чужых людзей, пакойчык той быў на гары, пад самаю страхою, вяла да яго вязкая крутая драўляная лесвіца, па якой дзевяностачатырохгадовая жанчына хадзіла штодня, і вугаль на апал сабе насіла, і ваду. Да майго прыезду Караліна Пашкевіч прыбрала пакойчык палявымі кветкамі — васількамі, рамонкамі— стаялі ў збанках на камодзе, на стале, але і кветкі не маглі схаваць беднасці яе жытла. Сама яна — маленькая, худзенькая, з бледным тварам, у чорным гарнітурчыку, у стаптаных чорных туфліках, з рэдзенькімі белымі валасамі, зачасанымі на даўнейшы лад, была нібы занесеная ветрам часу з даўніны, з тае пары, якая ўжо даўно мінулася, пра якую ўжо не верыцца, што яна была, але вось — сведка, вось частачка тае пары, дыханне таго часу.

Пра тое, што яе сястра Алаіза Пашкевіч—класік беларускай літаратуры, Караліна Пашкевіч не ведала, расказаў ёй пра гэта толькі Станіслаў Вызга, падрыхтаваў да майго візіту.

Пачалі мы размову з Каралінаю Пашкевіч па-польску, але вельмі скора перайшлі на беларускую мову. Караліна вельмі добра памятала яе, хоць не чула, не ўжывала гадоў, можа, пяцьдзесят. Цётчына сястра любіла і ўмела прыгаварваць у рыфму — хіба і яна мела паэтычныя здольнасці? Успамінала, чытала на памяць вершы Цёткі.

Мой прыезд абудзіў у яе ўспаміны пра радзіму, якую Цётчына радня, сваякі былі змушаны пакінуць. У 1939 годзе на іх пачалося ганенне як на кулакоў, хоць да таго часу гаспадарка Пашкевічаў зусім збяднела, сям'я раскідалася. Але пад рэпрэсіі падпаў брат Цёткі Войцах, сёстры Стэфанія і Зося. Брат Войцах так і не вярнуўся з Сібіры, сястра Стэфанія пасля вайны выехала з Савецкага Саюза ў Польшчу і ў 1947 годзе памерла ў Шчэціне, у прытулку для старых. Сястра Зося нейкім чынам з Сібіры цераз Персію, Турцыю перабралася ў Злучаныя Штаты Амерыкі і там памерла ў 1957 годзе. Сама Караліна выехала ў Польшчу ў 1946 годзе (да вайны жылі з маці пад Вільняй) і вось, жыве тут.

Цётчына сястра расказвала мне пра сям'ю, пра Алаізу. Тут мой блакнот напаўняўся вельмі хутка. Не хачу паўтараць зместу нашых размоў, пра сустрэчу з Каралінаю Пашкевіч я пісала ўжо. Задача дадзеных нататкаў іншая, яна — пра шлях дадому спадчыны, таго, што па праву належыць беларусам як памяць, як мемарыяльная каштоўнасць.

Кепска пабеленыя, крывавятыя сцены пакоя Цётчынай сястры аздаблялі два невялікія габеленчыкі. Адзін паказваў музычнае прадстаўленне ў палацы, на другім былі сцэнкі з кітайскага жыцця. Габеленчыкі былі старыя, можа, равеснікі гаспадыні, а можа, і старэйшыя. Не без патаемнай думкі запыталася я ў пані Караліны:

— А ці памятаеце вы, калі куплены гэтыя габелены?

І атрымала адказ:

— А хто іх ведае, калі куплены, яны яшчэ ў Старым Двары віселі, над маім ложкам вось гэты вісеў.

Тады і запала мне ў душу — не павінны заставацца яны ў Польшчы, у чужых людзей. Ды чужыя людзі іх і хаваць не будуць, выкінуць некалі на сметнік, як нікому не патрэбную старызну. А гэта ж памяць Цётчынай сям'і, і сама яна, магчыма, запыняла на іх свой позірк, можа, кранала рукою?..

Колькі страчана ўжо намі і рэчаў, і дакументаў, што мелі б каштоўнасць для нашай гісторыі, варта ўспомніць хаця б музей Івана Луцкевіча з неацэнным скарбам, які пацвердзіў бы існаванне беларускай культуры з даўніх часоў, не былі б мы Янкамі, што не памятаюць сваёй радні. Ды тая ж Караліна Пашкевіч на маё пытанне — ці не захавалася ў яе сямейных фатаграфій, дакументаў? — адказала:

— Спаліла... Усё спаліла... Кепска пачувалася, думала — памру, дык не хацела, каб чужыя дзеці цягалі — дакументы, фатаграфіі...

Вось так — усё спаліла... Дзе былі мы раней, чаму не ўратавалі? А цяпер вось — габеленчыкі... І гадзіннік, што вісіць на сцяне,—таксама ж з дому Пашкевічаў, старадаўні.

Ды не будзеш з жывым чалавекам пра яго спадчыну гаварыць. Дай бог пані Караліне яшчэ шмат гадоў жыцця, ды ў радасці, у здароўі.

Намякнула я пра гэта толькі пану Станіславу Вызгу, які са мною ездзіў у Франін, намякнула тады, калі пакідалі мы ўжо вёсачку, пакідалі пані Караліну — адну, самотную, пад высокаю старою ліпаю. Стаяла, махала нам рукою на развітанне.

Можа, пан Станіслаў намякнуў потым пані Караліне?.. Але напісала яна тастамент — завяшчанне, у якім габеленчыкі і той гадзіннік завяшчала беларускаму музею.

Памерла пані Караліна ў лістападзе 1978 года. Пра гэта мне паведаміў пан Станіслаў, апісаў, як яе хавалі, прыслаў нават здымак з таго пахавання. Паведаміў і пра тое, што габеленчыкі знаходзяцца ў яго, а гадзіннік забраў Вільгельм Ермаловіч, Цётчын зямляк, які жыве ў Лодзі.

І паплыў час. У Польшчу ездзіць зрабілася цяжка — палітычныя праблемы. Але спадзяваліся — і я, і пан Станіслаў, што атмасфера палепшае, і потым...

Як часта адкладаем мы нешта на «потым», а тое «потым» не надыходзіць... Так аказалася і тут.

З панам Станіславам Вызгам мы вялі актыўную перапіску. Я часта атрымлівала ад яго лісты, акуратна яму адказвала. Ведала, што ён жыве толькі ўдваіх з жонкаю, ні дзяцей, ні блізкай радні ў іх няма. Абодва мелі ўжо пенсію — немаладыя людзі.

Час бяжыць, бяжыць і нешта я заўважаю — даўно не мела я ліста ад пана Станіслава. Сама напісала яму. І зноў няма адказу. Ды раптам пісьмо—з Вроцлава, ад незнаёмага мне Уладзіміра Матошкі. Карэспандэнт пісаў: «Са смуткам паведамляю шаноўнай пані, што мой швагер Станіслаў Вызга дня 12.X.80 года памёр, а 20.XI.80 года памерла і яго жонка Ядвіга Вызга. Абодва памерлі ад завалу сэрца, пахаваны на могілках пры вуліцы Грабічанскай. Пры нагодзе жадаю пані шчаслівага новага 1981 года. Уладзімір Матошка».

Смерць пана Станіслава і пані Ядвігі вельмі моцна мяне ўразіла, выклікала непадробны сум. Пан Станіслаў быў жа такі бадзёры, такі жыццярадасны і на выгляд зусім здаровы... І ўразіла яшчэ гэта — памерлі адно за адным. Пры жыцці былі такія блізкія, такія патрэбныя адно аднаму, так зрасліся, што адно без аднаго не маглі жыць. Не фігуральна, а натуральна. Я ведаю, як любілі, як шанавалі яны адно аднаго, не змагла пані Ядвіга перажыць смерці мужа.

Пасля першага балючага ўражання прыйшоў да мяне і цвярозы роздум. А дзе ж габеленчыкі? Выкінуць іх нашчадкі пана Станіслава як старое, непатрэбнае для іх сучасных, прыгожа абсталяваных кватэр.

І забіла я трывогу.

Да мяне ў Мінск пан Станіслаў прыязджаў са сваёю пляменніцаю Алінай Балюк (дзявочае прозвішча таксама Вызга, як і ў маці Цёткі). Жыве яна ў Познані. Мела я і адрас пані Аліны. Пачала пісаць ёй пісьмо за пісьмом — каб пастаралася знайсці тыя макаткі (так называлі яны габеленчыкі), каб не згубіліся яны, бо маюць для нас, беларусаў, каштоўнасць.

Доўга не мела я адказу ад пані Аліны, але нарэшце. Пані Аліна пісала, што габеленчыкі цяпер у яе, у Познані, але на іх прэтэндуе родны пляменнік Цёткі, сын малодшай яе сястры Зосі, Стэфан Гампель, які жыве ў Заходняй Германіі, часта прыязджае ў Польшчу і дачуўся пра нейкі сямейны скарб, які хавае пані Аліна. Ён лічыць сябе адзіным законным нашчадкам і тыя габелены хоча завезці ў Германію. Пані Аліна прасіла, каб я выслала ёй копію завяшчання, якое напісала пані Караліна. Што я і зрабіла. Наколькі мне вядома, пані Аліна нават судзілася са Стэфанам Гампелем за тыя макаткі, але суд не мог пайсці супраць завяшчання Караліны Пашкевіч.

Пасля на габеленчыкі пачаў прэтэндаваць пан Матошка, той самы, што паведаміў мне пра смерць пана Станіслава і атрымаў у спадчыну яго маёмасць. Мусіць, стараннe, з якім пані Аліна Балюк шукала тыя габеленчыкі, выклікала падазрэнне, што яны — вялікі скарб і можна на іх нажыцца. Як адбівалася пані Аліна ад пана Матошкі — не ведаю, але габеленчыкі нікому не аддала, напісала мне, што трымае іх пры сабе, я магу прыехаць і забраць іх.

Але зноў лёгка сказаць — прыехаць, гэта ўсё-такі не на суседнюю вуліцу. Становішча ў Польшчы не выпраўлялася, хаця я ведала—з Савецкага Саюза ды і з Беларусі туды ездзяць. Пачала прымаць захады, каб пераслаць, перадаць, прывезці з Польшчы ў Беларусь спадчыну сям'і Цёткі. Пісала пра гэта ў «ЛіМе», звярталася да польскага консула ў Беларусі Яна Рачкоўскага. У адказ — маўчанне. Напісала ліст сакратарыяту Саюза пісьменнікаў Беларусі. Той ліст сакратарыят Саюза пісьменнікаў пераслаў у фонд культуры БССР. Фонд культуры—назад у Саюз пісьменнікаў, а мне ў адказ зноў нічога. Спраўляла баль бюракратычная машына. Пакуль не пайшла я да Ніла Гілевіча і не сказала, што выйсце тут адно—трэба даць мне камандзіроўку ў Познань.

Надзіва, дазвол я атрымала вельмі скора, вельмі скора аформіла пашпарт. Сазванілася з Алінаю Балюк—каб была дома на час майго прыезду.

І вось чэрвень 1989 года. Я ў дарозе. Дзяржаўная мяжа. Пагранічнікі, таможаннікі, спачатку нашы, потым польскія. А далей—польскія палі, лясы, польскае неба над галавою. Здаецца, усё такое, як і наша, але і не такое, іншае. Невядома па якіх прыкметах, па якіх абрысах, па якіх фарбах—але не наша ўжо, хоць і блізкае.

Горад Познань наплывае камяніцамі, зялёнымі астраўкамі зеляніны, прамысловымі будынкамі. Спыніўся цягнік не на галоўным вакзале, а на невялікім пераездзе, і я спужалася —ці спаткаюць мяне тут? Але спаткалі, з платформы ўсміхалася мне пані Аліна, падхапіла мой чамадан.

На маленькім «Фіяціку», які вёў пан Антоній, муж пані Аліны, заехалі спачатку ў гасцініцу, дзе я ўладкавалася, а потым—да пані Аліны, на вуліцу Срэбную, дом адзінаццаць, амаль на ўскраіне горада.

Мусібыць, пані Аліна і яе муж паходзяць з сем'яў тых моцных гаспадароў, што любілі працу, у ёй знаходзілі не толькі сродак да жыцця, а і радасць, не ўяўлялі без яе, цяжкой, свайго жыцця. Я заўважыла адразу, што рукі ў іх, у людзей з вышэйшай адукацыяй, не мяккія і далікатныя, а цвёрдыя, у мазалях, з абламанымі пазногцямі, рукі людзей фізічнай працы. Пацвердзіў мне гэта і іхні падворак, гарод каля дома — вялікая, па-гаспадарску зробленая цяпліца, у якой паспявалі ўжо крамяныя памідоры, дзесьці блізка ляжала цэлая плантацыя трускалак, у калідорчыку стаялі поўныя кашы—буйных, адна ў адну. Ну, ды іншая садавіна, гародніна, не кажучы ўжо пра кветкі, якіх тут вельмі шмат цвіло навокал. Потым пані Аліна хвалілася мне — сваім гародам, кветкамі, а я ведала, як шмат усё гэта патрабуе любві і працы.

На парозе нас сустрэла бабулька — зграбненькая, у прыгожай сукенцы, з акуратным учасаннем на зусім белых валасах — маці пані Аліны, якой, здаецца, таксама за дзевяноста. Якая ж ласкавая была яна са мною, не ведала, як лепей, мякчэй усадзіць, чым смачнейшым пачаставаць. І ў яе я, мусібыць, абудзіла ўспаміны аб радзіме — яна ж з тых самых мясцін, што і Цётчына сям'я, былі суседзямі, яшчэ добра памятала яна старэйшую Цётчыну сястру Стэфанію.

Пасля першых прывітанняў, размоў, частаванняў гаворка зайшла пра мэту майго падарожжа. Мне не цярпелася пабачыць іх, узяць у рукі — тыя габеленчыкі, што некалі аздаблялі пакой пані Караліны. Пані Аліна прынесла іх. Сказала нібы вінавата:

— Яны то надта старыя, можа, і брудныватыя, я спачатку думала іх памыць, а потым пабаялася.

— Што вы, пані Аліна,—спалохалася я.—Вельмі добра, што не памылі, яны маглі б зусім сапсавацца.

Габелены і праўда былі вельмі старыя, адзін то захаваўся лепей, другі горш і самі па сабе каштоўнасці яны, напэўна, не мелі, але для мяне былі вельмі дарагія, бо звязвалі памяццю з нашай выдатнаю паэтэсаю, з яе домам, з яе сям'ёю. Аднак і наконт каштоўнасці саміх габеленаў хутка мне прыйшлося перамяніць думку. Пані Аліна прынесла дакумент — заключэнне Міністэрства культуры і мастацтва ў Познані. Чаму насіла туды пані Аліна габелены—не ведаю, не спыталася ў яе. Можа, сама збіралася прывезці іх у Беларусь, а можа, такім чынам спрабавала не дазволіць вывезці іх Стэфану Гампелю ў Германію? А можа, сама хацела ведаць іх каштоўнасць? Адным словам, яна паказала мне заключэнне камісіі Міністэрства культуры і мастацтва ад 27.VII.1982 года. Там давалася апісанне габеленаў:

«1. Габелен, выраб машыновы, баваўна, памеры 50×139 см., паказвае музычнае прадстаўленне ў палацы ў стылі ракаковым. Акаймаваны бардзюркаю з лісцяў. Колеры: крэмавы з адценнем бронзы, шэры. Выраб фабрычны з канца XIX стагоддзя. З погляду на час вырабу за мяжу вывозіць забараняецца.

2. Габелен, выраб машыновы, баваўна, памеры 50×140 см. Сцэнкі з кітайскага жыцця на фоне пейзажу і архітэктуры. Каларыт манахраматычны, крэмавы з адценнем бронзы, шэра-блакітны, чорны. Замест бардзюркі чорная рамка. Выраб фабрычны канца XIX стагоддзя. З погляду на час вырабу вывозіць за мяжу забараняецца». (Пераклад з польскай мовы).

Значыцца, габелены маюць і мастацкую каштоўнасць? І вывозіць іх за мяжу забараняецца?..

Я мела пры сабе дакументы —ад Саюза пісьменнікаў БССР, што даручаецца мне прывезці ў Беларусь спадчыну нашай паэтэсы. Мела пры сабе завяшчанне пані Караліны. Але ўсё-такі... Трапіцца які-небудзь упарты таможаннік, і нічога яму не дакажаш, будзе патрабаваць дазволу Міністэрства культуры і мастацтва на вываз мастацкай каштоўнасці.

Я не ведала, як глыбей, як лепей схаваць той скарб у чамадане, хоць разумела — калі будуць праглядаць багаж, то нічога не схаваеш ад пільнага вока таможаннікаў.

Ехала дадому і калацілася — надта не хацелася страціць тое, што шукала некалькі гадоў і што везла цяпер у Беларусь, дадому. Чакала ўсё польскіх таможаннікаў. І вельмі ўзрадавалася, калі ўбачыла, што польскую мяжу мы ўжо мінулі, што ўжо едзем па беларускай зямлі. Польскія таможаннікі ў наш вагон не зайшлі наогул.

Я не думаю, што ўчынкам сваім нанесла страту польскай культуры. Каб не старанні пана Станіслава, пані Аліны ды мае, то тыя габеленчыкі даўно б загінулі. І потым — належаць яны іменна Беларусі, пані Караліна завяшчала іх музею беларускаму. Проста, калі б ісці афіцыйнаю дарогаю ды дабівацца дазволу польскага Міністэрства культуры і мастацтва, то прайшло б яшчэ шмат гадоў, бюракраты ўмеюць расстаўляць рагаткі. Мы тыя рагаткі проста абмінулі. Габелены цяпер у музеі літаратуры і мастацтва Беларусі.

А гадзіннік яшчэ там, за мяжою, у Лодзі, яшчэ цікае недзе, адлічвае час. Старыя рэчы доўга служаць, іх рабілі добрыя майстры.

# ПАТРЭБНЫ АГУЛЬНЫЯ НАМАГАННІ

У № 3 штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» ад 19 студзеня 1990 г. у артыкуле «Жыві адроджаная памяць» утрымліваецца інфармацыя, якая скажае існуючае становішча. У прыватнасці, у адрозненне ад прыведзеных звестак, Міністэрствам культуры БССР па ўзгадненню з Акадэміяй навук БССР, рэспубліканскім саветам Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры і Беларускім фондам культуры былі складзены наступныя прапановы па ўключэнню помнікаў гісторыі і культуры Беларусі ў Спіс сусветнай спадчыны (у парадку чарговасці прадстаўлення).

1. Палацава-паркавы комплекс XVI—XX стст. у г. п. Мір Гродзенскай вобласці.

2. Серыя старажытнабеларускіх цэркваў (уключае: Сафійскі і Спаскі саборы ў г. Полацку, царкву Барыса і Глеба ў г. Гродне).

3. Серыя сярэднявечных культавых пабудоў абарончага тыпу (уключае: цэрквы ў вёсках Сынковічы і Мураванка Гродзенскай вобласці, касцёл Іаана Хрысціцеля ў в. Камаі Віцебскай вобласці).

4. Крэмнездабыўныя шахты ля г. п. Краснасельскі Гродзенскай вобласці.

5. Палацава-паркавы ансамбль з касцёлам езуітаў у г. Нясвіжы Мінскай вобласці.

6. Гістарычны цэнтр г. Гродна.

На сучасны момант гэтыя прапановы ўзгоднены з Саветам Міністраў БССР. Распачата падрыхтоўка ўліковых дакументаў для ўнясення першага з пералічаных аб'ектаў на разгляд у адпаведную камісію ЮНЕСКА.

У Міністэрстве культуры Саюза ССР некалькі больш чым год назад створана Галоўнае ўпраўленне аховы, рэстаўрацыі помнікаў і капітальнага будаўніцтва (з дзяржінспекцыяй), назва якога ў артыкуле тэндэнцыйна зменена. Прапаноў стварыць аналагічныя падраздзяленні ў рэспубліках з боку саюзнага міністэрства не было. У сапраўдны час пытаннямі ўліку, аховы, рэстаўрацыі і ўтрымання помнікаў у Міністэрстве культуры БССР займаюцца вядучы аддзел аховы помнікаў гісторыі і культуры (у нядаўнім мінулым — дзяржінспекцыя па ахове помнікаў гісторыі і культуры), упраўленне капітальнага будаўніцтва і рэстаўрацыі.

Адзначаныя тэндэнцыйнасць, недасведчанасць у справах міністэрства наўрад ці можа пайсці на карысць, аб'ядноўваць намаганні ўсіх бакоў, зацікаўленых у справе аховы і гісторыка-культурнай спадчыны. А справе гэтай як ніколі патрэбны зараз падтрымка і ўзаемаразуменне.

**У. ГІЛЕП,**
**намеснік міністра культуры БССР.**

# Пленум Таварыства аматараў кнігі

Адбыўся пленум Рэспубліканскага праўлення Добраахвотнага таварыства аматараў кнігі, на якім разгледжана арганізацыйнае пытанне. Старшынёй рэспубліканскага праўлення выбраны В. Дубоўскі, першым намеснікам — У. Лапцёнак.

**В. ЛУГАВЫ.**

**Праўленне Саюза тэатральных дзеячаў БССР глыбока смуткуе з прычыны смерці аднаго са старэйшых членаў саюза, акцёра Гомельскага абласнога драматычнага тэатра, заслужанага артыста БССР Каменскага Анатоля Сяргеевіча і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

